Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь
Нацыянальная камісія Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА
ААТ «Белгазпрамбанк»

# Мастакі Парыжскай школы з Беларусі

**Художники Парижской школы из Беларуси**

**Artists of the School of Paris of Belarusian origin**

**2-е выданне,
дапоўненае і перапрацаванае**

**З карпаратыўнай калекцыі
ААТ «Белгазпрамбанк»,
музейных і прыватных
збораў**

**Арт-праект**

**Каталог выстаўкі**

**21.09.2012 – 14.01.2013**

Мінск
Выдавецтва «Чатыры чвэрці»
2012

УДК 75(476:44)(083.824)
ББК 85.14(4Беи)л6
М32

**Удзельнікі арт-праекта:**
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь
(генеральны дырэктар — У. Пракапцоў),
Музей Марка Шагала ў Віцебску (дырэктар — Л. Хмяльніцкая),
ААТ «Белгазпрамбанк» (старшыня праўлення — В. Бабарыка),
прыватныя калекцыянеры г. Мінска і г. Санкт-Пецярбурга

**Каардынатар арт-праекта**
С. Прыёмка

**Куратары арт-праекта:**
Н. Усава,
У. Шчасны

**Афармленне выстаўкі**
ТАА «Ладзес» (дырэктар – Н. Кухарэнка)

**Арганізатар выстаўкі**
Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь

Друкуецца па рашэнні Вучонага савета
Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь

*Арганізатары арт-праекта і выстаўкі
выказваюць шчырую ўдзячнасць за дапамогу і падтрымку:
старшыні праўлення ААТ «Белгазпрамбанк» Віктару Бабарыку,
Міністру культуры Рэспублікі Беларусь Паўлу Латушку,
Сяргею Мартынаву,
Паслу Дзяржавы Ізраіль Іосіфу Шагалу,
Паслу Рэспублікі Беларусь у Французскай Рэспубліцы Аляксандру Паўлоўскаму,
Паслу Французскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Мішэлю Рэнэры,
Паслу Рэспублікі Беларусь у Злучаным Каралеўстве Вялікабрытаніі
і Паўночнай Ірландыі Аляксандру Міхневічу,
эксперту па Парыжскай школе Надзін Незавер (Францыя),
нашчадкам мастакоў Дзіне Любіч, Ліліян Дзюлак-Царфін (Францыя) і Кэнэту Грогеру (ЗША),
а таксама: каардынатару арт-праекта Сяргею Прыёмку,
дырэктару Цэнтра візуальных і выканальніцкіх мастацтваў Анжэле Крашэўскай,
Ліліяне Анцух і супрацоўнікам выдавецтва «Чатыры чвэрці»,
Юрыю Абдурахманаву,
в. а. дырэктара Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь Ніне Калымага,
Аляксандру Аляксееву, Таццяне Бембель, Іне Васілеўскай,
Алегу Лукашэвічу, Аляксею Радзівонаву, Людміле Хмяльніцкай,
Наталлі Счасновіч, Ілоне Юрэвіч*



Выстаўка ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь твораў адзінаццаці вядомых мастакоў Парыжскай школы, народжаных у Беларусі, – Марка Шагала, Хаіма Суціна, Яўгена Зака, Якава Балглея, Пінхуса Крэменя, Надзі Хадасевіч-Лежэ, Роберта Геніна, Сэма Царфіна (Зарфіна), Міхаіла Кікоіна, Восіпа Любіча, Восіпа Цадкіна – значная падзея ў культурным жыцці нашай краіны і далёка па-за яе межамі.

Іх біяграфіі характэрныя для мастакоў з гарадоў і маленькіх мястэчак беларускага краю: змалку цікавасць да малявання, атрыманне мастацкай адукацыі спачатку на Радзіме, а затым далёка ад роднай зямлі, у Парыжы, шляхам пастаяннага самаўдасканалення і самаахвяравання – сцвярджэнне сябе як творчай індывідуальнасці і, нарэшце, поспех. А праз 100 гадоў – вяртанне на Радзіму ўжо прызнанымі светам майстрамі.

Вядомыя музеі свету маюць творы нашых знакамітых землякоў, якія не проста ўвайшлі ў гісторыю мастацтва Францыі, але і прыўнеслі беларускі дух, новыя фарбы ў жывапісную палітру еўрапейскага мастацтва.

Дзякуючы ініцыятыве кіраўніцтва Белгазпрамбанка гэта малавядомая беларусам плынь у мастацтве XX стагоддзя будзе ўпершыню прадэманстравана на выстаўцы «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі» арыгіналамі твораў. У далейшым яны будуць паказаны шырокай публіцы ва ўсіх абласных гарадах Беларусі і ў буйных музеях па-за межамі нашай краіны.

Гэта выстаўка рэальна садзейнічае вяртанню імёнаў таленавітых суайчыннікаў на Бацькаўшчыну, паглыбленню ведаў па гісторыі мастацтва Беларусі, узбагачэнню як беларускай, так і агульнаеўрапейскай культуры, у падмурак якой на пачатку XX стагоддзя ўнеслі значны ўклад нашы славутыя землякі.

**Уладзімір Пракапцоў,**
генеральны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь,
кандыдат мастацтвазнаўства

Выставка в Национальном художественном музее Республики Беларусь произведений одиннадцати известных художников Парижской школы, родившихся в Беларуси, – Марка Шагала, Хаима Сутина, Евгения Зака, Якова Балглея, Пинхуса Кременя, Нади Ходасевич-Леже, Роберта Генина, Сэма Царфина (Зарфина), Михаила Кикоина, Осипа Любича, Осипа Цадкина – знаковое событие в культурной жизни нашей страны и далеко за ее пределами.

Их биографии характерны для художников из городов и маленьких местечек белорусского края: с детства интерес к рисованию, получение художественного образования сначала на Родине, а затем далеко от родной земли, в Париже, путем постоянного самосовершенствования и самопожертвования – утверждение себя как творческой индивидуальности и, наконец, успех. А через 100 лет – возвращение на Родину уже всемирно признанными мастерами.

Известные музеи мира имеют произведения наших земляков, которые не просто вошли в историю Франции, но и привнесли белорусский дух, новые краски в живописную палитру европейского искусства.

Благодаря инициативе руководства Белгазпромбанка это малоизвестное белорусам течение в искусстве XX века будет впервые продемонстрировано на выставке «Художники Парижской школы из Беларуси» оригиналами произведений. В дальнейшем они будут показаны широкой публике во всех областных городах Беларуси и в крупных музеях за пределами нашей страны.

Эта выставка реально содействует возвращению имен талантливых соотечественников на их Родину, углублению знаний по истории искусства Беларуси, обогащению как белорусской, так и общеевропейской культуры, в фундамент которой в начале XX века внесли значительный вклад наши прославленные земляки.

**Владимир Прокопцов,**
генеральный директор Национального художественного музея Республики Беларусь,
кандидат искусствоведения

The National Art Museum's exhibition of art works by eleven famous artists of the School of Paris with Belarusian origins is a significant event in the cultural life of our country and far beyond its borders. These artists are Marc Chagall, Chaïm Soutine, Eugene Zak, Jacob Balgley, Pinchus Krémègne, Nadia Chodasiewicz-Léger, Robert Genin, Schraga Zarfin, Michel Kikoïne, Ossip Lubitch and Ossip Zadkine. Their biographies are typical for artists from small towns of Belarus: early interest in drawing; artistic education first at home and then in Paris, far away from their homeland, constant self-perfection and self-sacrificing; stating themselves as artistic individualities; and at last — success. After 100 years they are repatriating as world-renown appreciated masters.

Collections of the world's largest museums include works by our compatriots who have not just gone down in the history of France but also introduced Belarusian spirit and new colours to the picturesque palette of European art.

Thanks to *Balgazprombank* administration's initiative, the School of Paris — artistic trend of the early 20th century, little known in Belarus — will be, for the first time, demonstrated at the exhibition 'Artists of the School of Paris of Belarusian Origin' using their original art works. Later on they will be taken to the public in all regional centres of Belarus and to large museums abroad.

This exhibition is a real support for returning the names of our talented compatriots to their homeland; as well as improving knowledge in the history of Belarusian art, enriching both Belarusian and all-European culture, to which basis our celebrated fellow countrymen made a significant contribution at the beginning of the 20th century.

***Uladzimir Prakaptsou,***
*General Director of the National Art Museum of the Republic of Belarus,*
*candidate of Art History*



**На цырымоніі перадачы Белгазпрамбанкам у дар Нацыянальнаму мастацкаму музею Рэспублікі Беларусь работ Марка Шагала *(справа налева):* старшыня праўлення банка В. Бабарыка, Міністр культуры П. Латушка, Пасол Ізраіля І. Шагал, генеральны дырэктар музея У. Пракапцоў. 2012**

**На церемонии передачи Белгазпромбанком в дар Национальному художественному музею Республики Беларусь работ Марка Шагала *(справа налево):* председатель правления банка В. Бабарико, Министр культуры П. Латушко, Посол Израиля И. Шагал, генеральный директор музея В. Прокопцов. 2012**

# Беларускі дом для Парыжскай школы

Белгазпрамбанк выступае ініцыятарам і непасрэдным удзельнікам працэсу вяртання карцін сусветна вядомых мастакоў Парыжскай школы пачатку XX стагоддзя, народжаных у Беларусі. У 2011 годзе Белгазпрамбанкам быў пакладзены пачатак фарміраванню калекцыі карцін, куды ўвайшлі творы М. Шагала, Х. Суціна, П. Крэменя, М. Кікоіна, В. Любіча, В. Цадкіна, С. Царфіна (Зарфіна).

З'яўленне такой калекцыі – гэта чарговы крок банка ў кірунку, які быў зададзены досыць даўно, пачынаючы з першага «Тэатральнага тыдня з Белгазпрамбанкам». Тады мы сфармулявалі асноўныя ідэі і падыходы па спрыянні грамадству ў фарміраванні ў Беларусі сярэдняга класа. Гаворка ідзе не толькі пра эканамічную складаючую, але і пра маральна-духоўнае выхаванне асоб, якія з'яўляюцца прадстаўнікамі гэтага класа. Лагічна было працягнуць рух у гэтым кірунку і зрабіць яшчэ штосьці.

Мы доўга думалі, як жа зрабіць так, каб гэта было цікава. Тэатр прадстаўляе нашу сучаснасць, а што ж можа прадставіць нам мінулае? Паразважаўшы, спыніліся на калекцыянаванні і адразу задаліся пытаннем: калі калекцыянаваць, дык што?

Калі тэатральнае мастацтва паказвае, на наш погляд, уваходжанне Беларусі ў сусветную культуру і мы спрабуем зразумець тэатр сённяшняга дня і ўявіць тэатр будучыні, дык калекцыя жывапісу – гэта погляд у мінулае. Такія праекты можа аб'ядноўваць адна важная задача – на падставе мінулага і з улікам сучаснасці фарміраваць нашу будучыню.

Здаўна вядома: удача прыходзіць толькі да тых, хто яе ўпарта шукае. Вызначыцца з выбарам дапамог шчаслівы выпадак – з'яўленне кнігі Уладзіміра Шчаснага «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі». Сама яе назва сфарміравала канцэпцыю нашай калекцыі. Па ўсіх адчуваннях было ясна – гэта культурная з'ява, аб'яднаная часам, месцам і атмасферай творчай свабоды, а галоўнае – вызначаная асобамі, якія прадстаўлялі гэту школу. І мабыць, самыя яркія і выразныя крокі ў гэтым кірунку здзейснілі выхадцы з Беларусі – менавіта тут яны нарадзіліся, тут яны пачыналі свой шлях.

У парыжскім «Вуллі», дзе тварылі мастакі з Беларусі, вісіць шыльдачка з падзякай ад французскай грамадскасці за іх уклад у сусветнае мастацтва. Дык вось, з чатырох прозвішчаў, якія пазначаны на ёй, «тры з паловай» – беларускія. Тры з паловай таму, што там названы імёны Марка Шагала, Хаіма Суціна, Восіпа Цадкіна і Фернана Лежэ – француза, які быў жанаты на беларусцы Надзі Хадасевіч-Лежэ.

Я лічу трагедыяй Беларусі тое, што ніводнай жывапіснай работы знакамітых беларускіх творцаў, якія складаюць славу мастацкай цывілізацыі чалавецтва, дагэтуль не было ў нашай краіне. Упэўнены, што калекцыя Белгазпрамбанка будзе знакавым праектам для рэспублікі і стымулам для прыватных калекцыянераў. Па нашай жа задуме яна павінна стаць падмуркам музея прыватных калекцый, дзе будуць прадстаўлены экспанаты многіх прыватных калекцыянераў. Наведвальнікі такога музея змогуць у поўнай меры ацаніць велізарную культурную спадчыну, да стварэння якой маюць непасрэдныя адносіны нашы суайчыннікі.

Чаму ж нас зацікавіла менавіта Парыжская школа? Прадстаўнікі гэтай школы, імпрэсіяністы і постімпрэсіяністы, выказвалі сваё ўспрыманне навакольнага свету, адкрываючы яго ўтоеныя і самыя незвычайныя рысы. Яны валодалі здольнасцю змяняць вонкавае аблічча свету, аказваючы на яго ўплыў сваім мастацтвам. І гэта супадае з ідэалогіяй Белгазпрамбанка – фарміраваць навакольнае асяроддзе такім, якім яно павінна быць, таму што знешні свет – унутры нас. Ён такі, якім мы яго жадаем бачыць і якім мы яго робім. І ад нас залежыць, які ён цяпер і, самае галоўнае, якім ён будзе для нашых дзяцей і ўнукаў.

**Віктар Бабарыка,**
старшыня праўлення ААТ «Белгазпрамбанк»

## Белорусский дом для Парижской школы

Белгазпромбанк выступает инициатором и непосредственным участником процесса возвращения картин родившихся в Беларуси и ставших всемирно известными художников Парижской школы начала XX века. В 2011 году Белгазпромбанком было положено начало формированию коллекции картин, куда вошли работы М. Шагала, Х. Сутина, П. Кременя, М. Кикоина, О. Любича, О. Цадкина, С. Царфина (Зарфина).

Появление такой коллекции – это очередной шаг банка в направлении, которое было задано достаточно давно, начиная с первой «Театральной недели с Белгазпромбанком». Тогда мы сформулировали основные идеи и подходы по содействию обществу в формировании в Беларуси среднего класса. Речь идет не только об экономической составляющей, но и о нравственно-духовном воспитании личностей, которые являются представителями этого класса. Логично было продолжить движение в этом направлении и сделать еще что-то.

Мы долго думали, как же сделать так, чтобы это было интересно. Театр представляет наше настоящее, а что же может представить нам прошлое? Поразмыслив, остановились на коллекционировании и тут же задались вопросом: если коллекционировать, то что?

Если театральное искусство показывает, на наш взгляд, вхождение Беларуси в мировую культуру и мы пытаемся понять театр сегодняшнего дня и представить театр будущего, то коллекция живописи – это взгляд в прошлое. Такие проекты могут быть объединены одной важной задачей – на основании прошлого и с учетом настоящего формировать наше будущее.

Давно известно: удача приходит лишь к тем, кто ее упорно ищет. Определиться с выбором помог счастливый случай – появление книги Владимира Счастного «Художники Парижской школы из Беларуси». Само ее название сформировало концепцию нашей коллекции. По всем ощущениям было ясно – это культурное явление, объединенное временем, местом и атмосферой творческой свободы, а главное – определяемое личностями, которые представляли эту школу. И пожалуй, самые яркие и выразительные шаги в этом направлении совершили выходцы из Беларуси – именно здесь они родились, здесь они начинали свой путь.

В парижском «Улье», где творили художники из Беларуси, висит табличка с благодарностью от французской общественности за их вклад в мировое искусство. Так вот, из четырех фамилий, указанных на этой табличке, «три с половиной» – белорусские. Три с половиной потому, что там указаны имена Марка Шагала, Хаима Сутина, Осипа Цадкина и Фернана Леже – француза, который был женат на белоруске Наде Ходасевич-Леже.

Я считаю трагедией Беларуси то, что ни одной живописной работы знаменитых белорусских творцов, которые составляют славу художественной цивилизации человечества, до сих пор не было в нашей стране. Уверен, что коллекция Белгазпромбанка будет знаковым проектом для республики и стимулом для частных коллекционеров. Ведь по нашему замыслу она должна стать фундаментом музея частных коллекций, где будут представлены экспонаты многих частных коллекционеров. Посетители такого музея смогут в полной мере оценить огромное культурное наследие, к созданию которого причастны наши соотечественники.

Почему же нас привлекла именно Парижская школа? Представители этой школы, импрессионисты и постимпрессионисты, выражали свое восприятие окружающего мира, открывая его скрытые и самые необычные черты. Они обладали способностью менять внешний облик мира, оказывая на него влияние своим искусством. И это совпадает с идеологией Белгазпромбанка – формировать окружающую среду такой, какой она должна быть. Ведь внешний мир – внутри нас. Он такой, каким мы его хотим видеть и каким мы его делаем. И от нас зависит, каков он сейчас и, самое главное, каким он будет для наших детей и внуков.

**Виктор Бабарико,**
председатель правления ОАО «Белгазпромбанк»

# A Belarusian Home for the School of Paris

*Belgazprombank* initiated, and is directly involved in, the process of returning to their homeland works by artists who were born in Belarus and belonged to the School of Paris in the early 20$^{th}$ century. In 2011 *Belgazprombank* initiated the creation of a collection of works including paintings by Marc Chagall, Chaïm Soutine, Pinchus Krémègne, Michel Kikoïne, Ossip Lubitch, Ossip Zadkine, Schraga Zarfin.

The emergence of such collection is bank's another step along the way which has been set a long time ago with the first 'Theatre week with *Belgazprombank*'. Back then we stated our general concepts and attitude towards cooperation with society in forming the middle class in Belarus. It is a question of not only economy, but also of moral and spiritual personality formation of the people belonging to the named class. So it was logical to proceed in that direction and do something more.

We have long been thinking what might be interesting. Theatre represents our present; what may represent our past? After thinking a while longer we decided to focus on collecting, but faced a question: what are we to collect?

While, in our opinion, theatrical art demonstrates the integration of Belarus into world culture and we try to understand the present-day theatre and imagine the theatre of the future — the collection of art works is a mere flashback. Such projects can be merged to fulfil one important task — to shape our future based on our past, taking our present into account.

It has long been known: success comes only to those who persistently look for it. A lucky chance helped us to define our choice — the publication of the book by Vladimir Shchasny 'Artists of the School of Paris of Belarusian Origin'. The book title itself shaped the concept of our collection. The over all feeling was clear — the collection is to become a cultural phenomenon united by the time, the place and the atmosphere of artistic freedom, and above all — defined by the personalities representing this School. Perhaps, the most vivid and expressive steps in this direction were made by the natives of Belarus, because of where they were born and how they started their way.

There is a sign in Parisian La Ruche, where the artists from Belarus used to work, of the French people's appreciation for their contribution to the world art. Out of four names placed on the plaque three and a half are Belarusian. 'Three and a half' because Fernand Léger was married to a Belarusian, Nadia Chodasiewicz-Léger; as well as Marc Chagall, Chaïm Soutine and Ossip Zadkine who are also mentioned there.

I think, it's a tragedy for Belarus that none of the works by the famous Belarusian creators constituting the glory of humanity's artistic civilization have been in possession of our country. I am sure that the *Belgazprombank* collection is a significant project for the Republic and a stimulus for private collectors. According to our concept, the named collection will become a basis for the private collections of the museum where pieces from many private collectors will be displayed. The visitors of the museum will be able to fully appreciate the creation of a great cultural heritage which involved our compatriots.

Why have we become attracted to the School of Paris? Its representatives — Impressionists and Post-Impressionists — transmitted their own perception of the world revealing its secret and most extraordinary features. They were able to change the exterior of the world with the influence of their art. This coincides with the ideology of *Belgazprombank* to form the environment the way it has to be. After all, the outside world is inside us. It is the way we want to see it and the way we make it. It depends only on us what it is like today and, most importantly, — what will it be like for our children and grandchildren.

***Viktar Babaryka,***
*Chairman of the Management Board of Belgazprombank*

# Парыжская школа

### Сусветная сталіца мастацтва

Парыж любімы мастакамі ўсяго свету. З Амерыкі ў гэты горад прыбылі Морган Расэл у 1906 г., Ман Рэй – у 1921 і Аляксандр Колдэр – у 1926 г.; з Канады – Джэймс Уілсан Морыс у 1908 г.; з Японіі – Леанар (Тсугухару) Фужыта ў 1913 г., Тошыа Бандо – у 1921 і Сэі Каянагуі – у 1920 г.; з Грэцыі – Дзімітрыас Галаніс у 1900 г. і Георгас Гунаропулас (Ж. Гунаро) – у 1919; з Італіі – Джына Севярыні і Амедэа Мадыльяні ў 1906 г., Джорджа дэ Кірыко – у 1911, Масіма Кампілы – у 1919, Марыа Тоцы – у 1920 і Філіпа дэ Пізіс – у 1925 г.; з Мексікі – Анхель Сарага ў 1904 г. і Дыега Рывера – у 1912, а таксама чыліец Мануэль Артыс дэ Саратэ ў 1906 г.; з Аргенціны – Элена Сід у 1925; з Нарвегіі – сям'я Крог у 1889 г.; са Швецыі – Ісак Грунвальд у 1908 г.; з Кітая— Чанг Ю ў 1921 г.; з Англіі – Гары Блумфілд у 1921 г.; з Галандыі – Кіс ван Донген у 1897 і Піт Мандрыян – у 1912 г.; з Туніса – Джылані Абдул Вахаб у 1911 г.; з Іспаніі – Пабла Пікаса ў 1900 г., Хуан Грыс – у 1906 г., Франсіска Борас – у 1925 і Антоні Клавэ – у 1927 г.; з Расіі – Міхаіл Ларывонаў у 1906 г., Аляксандр Архіпенка – у 1908, Іван (Жан) Пуні – у 1910, Антон Пеўзнэр – у 1911, Казімір Малевіч – у 1912, Уладзімір Татлін – у 1913 і Наталля Ганчарова – у 1914 г.; з Балгарыі – Жуль Паскен у 1905 г. і Георгі (Жорж) Папазаў – у 1924; з Германіі – Франц Марк у 1903 г., Макс Пехштэйн – у 1907, рускія Аляксей Яўленскі – у 1905 і Васілій Кандзінскі – у 1906 г.

З Беларусі прыехалі: Зак – у 1900 г., Оскар Мешчанінаў – у 1907, Восіп Цадкін – у 1909, Марк Шагал і Якаў Балглей – у 1911, Міхаіл (Мішэль) Кікоін і Пінхус Крэмень – у 1912, Хаім Суцін – у 1913, Ізраіль Левін і Восіп Любіч – у 1923, Сэм Царфін – у 1924, Надзя Хадасевіч-Лежэ – у 1925, Якаў Мілкін – у 1928 г.

Гэты спіс далёка не поўны, але ён сведчыць аб тым, што мастакі ў Парыж прыязджалі з усіх чатырох бакоў свету. У 1905 г. на Восеньскім салоне былі выстаўлены работы Анры Маціса, Андрэ Дэрэна, Марыса дэ Уламінка – прадстаўнікоў новага кірунку ў жывапісе, які атрымаў назву «фавізм». У 1906 г. у Бато-Лавуар Пабла Пікаса адкрывае постсезанаўскую плынь – кубізм.

### Што называюць «Парыжскай школай»?

Перад Першай сусветнай вайной Еўропу агортвае бурлівая атмасфера мастацкага авангарду, цэнтрам якога становіцца Парыж. Межы ўжо не маюць значэння, Парыж – палігон для самых смелых і радыкальных эксперыментаў у жывапісе, міжнародная лабараторыя мастацтва.

«Парыжская школа» – тэрмін, які быў уведзены мастацкім крытыкам Андрэ Варно ў 1925 г. у часопісе «Камедыя» для абазначэння групы, якая была ўтворана замежнымі мастакамі ў Парыжы. «Парыжская школа» абазначае не рух ці школу ў акадэмічным разуменні, а гістарычны факт.

### Узнікненне Парыжскай школы (1905–1914)

Мастакі прыязджаюць з Усходу: Расіі, Польшчы, Балгарыі, Чэхаславакіі, Румыніі, Венгрыі. Ім ужо вядома творчасць вялікіх майстроў Францыі XIX ст., ведаюць яны і пра імпрэсіяністаў дзякуючы сваім настаўнікам: Юзэфу Панкевічу ў Кракаве, Іллі Рэпіну ў Пецярбургу, Адольфу Феньешу ў Будапешце, Ловісу Корынту ў Берліне і Юдэлю Пэну ў Віцебску.

Хутка вайна 1914–1918 гг. раскідае іх па свеце: Рудольф Леві, Вальтэр Бондзі і Ота Фрэйндліх зноў апынуцца ў Германіі, Леапольд Готліб накіруецца ў Польшчу, дзе паступіць на службу ў армію Пілсудскага. У Расію вернуцца Марк Шагал, Манэ-Кац, Савелі Шлейфер. Многія з тых, хто застаўся, запішуцца добраахвотнікамі ў французскую армію. Кіслінга дэмабілізуюць у 1915 г. з-за ранення, сябар Апалінэра Маркусі атрымае ўзнагароду, а Мандзэн здыме ваенную форму толькі ў ліпені 1918 г.

Тыя, каго забракавалі па стане здароўя, будуць добраахвотна выконваць працоўную павіннасць, як, напрыклад, Мадыльяні і Суцін.

Ухіляючыся ад службы ў балгарскай арміі, Жуль Паскен едзе ў Лондан.

У гады вайны мастакі, якія засталіся ў Парыжы без аніякай дапамогі, аб'ядноўваюцца. У 1915 г. Марыя Васільева адкрывае ў сваёй майстэрні ў доме № 21, што ў тупіку на авеню Мэн, сталовую, дзе на працягу ўсіх ваенных гадоў будзе цесна і шматмоўна.

Першая сусветная вайна – гэта перыяд, калі мастакі Манпарнаса рыхтуюцца да з'яўлення на парыжскім мастацкім небасхіле.

У снежні 1915 г. Жэрмен Бангар, сястра мадэльера Поля Пуарэ, ладзіць серыю выставак у сваёй краме на вуліцы Панцьеўр, у першую з якіх увайшлі работы Мадыльяні, Кіслінга поруч з карцінамі Пікаса, Лежэ, Маціса, Дэрэна.

У снежні 1917 г. Л. Збароўскі наладжвае першую выстаўку Мадыльяні ў галерэі Берты Вейль на вуліцы Тэтбу. Берта Вейль у сваіх мемуарах так апісвае гэтую падзею:

«У суботу быў мантаж выстаўкі, а ў панядзелак, 3 снежня 1917 года, – вернісаж. Пышныя аголеныя целы, вуглаватыя фігуры, спакуслівыя партрэты, адборная кампанія (...) "З уладальніцай галерэі жадае пагутарыць камісар паліцыі". Прыходжу, там ужо шмат людзей... Пытаюся:

— Вы хацелі мяне бачыць?

— Так, і я вам загадваю зараз жа зняць усю гэтую непрыстойнасць. (...)

— А ў чым яна, у гэтых аголеных? (...)

— Гэтых аголеных… У іх жа там… вввaласы!»

У 1919 г. у галерэі Друэ на правым беразе Сены праходзіць выстаўка, прысвечаная Кіслінгу, якому ўсяго 28 гадоў.

## Манпарнас – тэрыторыя Парыжскай школы

*«На Манпарнасе на працягу дваццаці гадоў з-пад палы альбо пад сталамі кафэ "Ратонда", "Дом", "Купаль" перакупшчыкі прадавалі эскізы Дэрэна, акварэлі Утрыло, малюнкі Мадыльяні, графічныя накіды Пікаса, якія нейкім дзіўным чынам не апынуліся ў папках саміх мастакоў».*

*Фларан Фельс. Раман жывога мастацтва, 1959.*

*«23 чэрвеня 1914 г. Манпарнас...*
*Цяпер на змену Манмартру (Гары пакутнікаў) прыходзіць Манпарнас (Гара Парнаса). І тут, і там не абысціся без альпінізму, бо і тут, і там гара, а мастацтва – на іх вяршынях... Пачынаючым мастакам нязручна на сучасным Манмартры, цяжка ўзбірацца на гару, шмат тыпаў, якія выдаюць сябе за мастакоў, прадпрымальнікаў з нястрымнай фантазіяй, курцоў опіуму, якія дэградавалі.*
*На Манпарнасе ж, наадварот, сустракаеш сапраўдных мастакоў, апранутых па-амерыканску. (...)*
*Вось дзе мілае месца, над якім неба схіляе да знаходжання на вуліцы, дзе свежае паветра на тэрасах кафэ "Клозэры дэ Ліла", (...) "Ратонда", (...) "Дом"».*

*Гіём Апалінэр. Хронікі мастацтва, 1902–1918.*

## Тры легендарных кафэ на скрыжаванні Вавэн (1905–1939)

Вобраз Манпарнаса склаўся ў кафэ.

Кафэ – галоўнае месца збору мастакоў, натуршчыц, калекцыянераў, гандляроў мастацтвам – маршанаў: тут назначаюцца сустрэчы, вядуцца гутаркі, прадстаўляюцца пачаткоўцы, якія толькі прыбылі, заключаюцца здзелкі і задумваюцца выстаўкі.

Але перш за ўсё кафэ былі паўсядзённым прыстанкам для неўладкаваных мастакоў, месцам, дзе яны маглі знайсці спакой.

Дух Парыжскай школы асаблівым чынам падтрымліваўся ў трох з іх.

### Кафэ «Дом»

Кафэ было адкрыта ў 1898 г., а пачынаючы з 1903 яму сталі аддаваць перавагу, прытрымліваючыся традыцый мюнхенскіх кафэ, нямецкамоўныя яўрэйскія мастакі Вальтэр Бондзі, Рудольф Леві, Бэла Цобель, Жуль Паскен. Тут яны знаёміліся з маршанамі – Альфрэдам Флетхаймам, Генры Бінгам... Утвараюцца і іншыя супольнасці мастакоў – выхадцаў з Галандыі і Скандынавіі.

У чэрвені 1914 г. Альфрэд Флетхайм у сваёй галерэі ў Дзюсельдорфе наладжвае выстаўку пад назвай «Дам'еры», у дачыненні да якой скажа: «Яны ўсе былі мастакамі-іншаземцамі, якія жылі ў Парыжы, сустракаліся ў адным і тым жа кафэ і любілі Парыж».

### Кафэ «Ратонда»

Старая ўстанова, якую ў 1911 г. узяў у свае рукі Віктар Лібіён. Ён адрозніваўся выключнай шчодрасцю ў дачыненні да людзей мастацтва, прывячаў мастакоў, паэтаў усіх плыняў. Апынуўшыся на чужыне, яны адчувалі сябе ў «Ратондзе» як дома, пераходзячы ад стала да стала, гадзінамі цешыліся цяплом і кубачкам кавы з вяршкамі, якую яны атрымлівалі ў крэдыт ці за свае малюнкі.

Сярод мастакоў самых розных нацыянальнасцей асабліва выбітнымі былі рускія яўрэі. Сталымі наведвальнікамі «Ратонды» сталі Крэмень, Суцін, Кікоін, а «каўбой» Самуэль Граноўскі дапамагаў час ад часу па гаспадарцы ў абмен на ежу ці выпіўку. Бывалі тут і Міхаіл Ларывонаў, Наталля Ганчарова, Адольф Федэр.

У 1920 г. фінансавыя цяжкасці прымусілі Лібіёна прадаць «Ратонду».

Ён, як і маршаны, у значнай меры паспрыяў фарміраванню ладу жыцця той эпохі сваёй пазіцыяй, новым успрыманнем свету. Кажуць, што Андрэ Сальмон шмат гадоў агітаваў за замену статуі Бальзака на бульвары Распай на помнік Лібіёну.

### Кафэ «Купаль»

Кафэ было адкрыта ў снежні 1927 г. былымі кіраўнікамі кафэ «Дом» Эрнэстам Фро і Рэнэ Лафонам. Утворанае на вяршыні славы Манпарнаса, у духу тых «шалёных» гадоў, яно складалася з уласна кафэ, рэстарана, бара ў амерыканскім стылі і танцавальнай залы. Сцены і калоны кафэ дэкаравалі тры дзясяткі мастакоў: Фернан Лежэ, Атон Фрыез, Марыя Васільева, Жорж Карс, Давід Зайферт, Натан Грунсвейг.

## Акадэміі

Гэта была эпоха першых акадэмій – Акадэміі Гранд Шам'ер, Акадэміі Маціса. Яны прапаноўвалі «ліберальную» адукацыю, што адрознівалася ад той, якую можна атрымаць у Вышэйшай школе вытанчаных мастацтваў.

Найстарэйшая з гэтых навучальных устаноў – Акадэмія Каларосі, заснаваная ў 1815 г., але перайшла ў 1870 г. пад кіраўніцтва Філіпа Каларосі, які размясціў яе ў доме № 10 на вуліцы Гранд Шам'ер. Марэўна (Марыя Вераб'ёва-Сцябельская) назвала яе мурашнікам, дзе няспынна працуюць прадстаўнікі самых розных нацыянальнасцей. У Акадэміі Жульена, якая была заснавана ў 1868 г. мастаком Радольфам Жульенам, навучанне было



**Бульвар Манпарнас у пачатку XX ст.**
**Бульвар Монпарнас в начале XX в.**

**Кафэ «Ратонда», «Дом», «Купොль». 1920-я**
**Кафе «Ротонда», «Дом», «Куполь». 1920-е**









пабудавана па ўзоры Вышэйшай школы вытанчаных мастацтваў. Акрамя самога Жульена ў ёй па чарзе выкладалі такія афіцыйна прызнаныя мэтры, як Вільям-Адольф Бугро, Тоні-Рабер Флеры і Жан-Поль Ларан.

Большасць мастакоў не маглі адразу паступіць у Школу вытанчаных мастацтваў, а ў акадэміях давалі магчымасць маляваць з натуры ў чаканні наступнага набору. Майстэрні Фернана Кармона і Густава Маро ў гэтай школе наведвалі найбольш часта.

**«Вулей»**

Многія мастакі, успамінаючы той час, расказвалі, што прыязджалі на Паўночны вакзал Парыжа з некалькімі манетамі ў кішэні і адрасам: «Манпарнас» ці проста «завулак Данцыг».

«Вулей» – будынак пад № 2 у завулку Данцыг, дзе былі абсталяваны майстэрні мастакоў, – знаходзіўся прама насупраць бойні. Гэтае збудаванне ў выглядзе ратонды, змайстраванае з элементаў павільёнаў Сусветнай выстаўкі 1900 г., з'яўляецца тварэннем скульптара Альфрэда Бушэ, які быў узнагароджаны медалямі за свае работы, стварыў скульптурныя партрэты многіх вядомых літаратараў і палітыкаў.

У скульптара-ідэаліста было жаданне стварыць гарадок для мастакоў, майстэрні, дзе яны маглі б жыць і працаваць за мінімальную плату.

Бушэ задумваў вучэбны клас з натуршчыцамі, выставачную залу і тэатр на трыста месцаў з добраахвотнай платай за ўваходны квіток. У выніку былі абсталяваны каля ста сарака невялікіх і пазбаўленых выгод майстэрняў.

Афіцыйнае адкрыццё «Вулля» адбылося вясной 1902 г. Для маладых мастакоў, якія прыбылі з Усходу, – Альтмана, Граноўскага, Шагала, Дабрынскага, Крэменя, Кікоіна, Суціна, Эпштэйна, Шапіра, Валавіка, Гатко, Пайлеса – «Вулей» становіцца прыстанкам, адкуль дзякуючы ім падзьме рэвалюцыйны вецер.

Шагал у «Маім жыцці» так апісвае бойні квартала Важырар: «Там, наводдаль, рэзалі жывёл, каровы рыкалі, а я іх маляваў… я дагэтуль чую гэты роў у сне, калі ім адразалі галовы, і памяць малюе выявы далёкай Расіі, дзе ў майго дзядулі была свая мясная лаўка».

У Суціна, які прыбыў на Паўночны вакзал Парыжа вясной 1912 г., з сабой быў толькі адзін адрас: «Вулей». Апоўначы ён з'явіўся ў Крэменя, начаваў у Кікоіна, а снедаў у Дабрынскага, у якога і пасяліўся на некаторы час. Пазней у «Вуллі» ён будзе дзяліць майстэрню са скульптарам Мешчанінавым.

**Пра некаторых маршанаў**

Росквіт 1920-х гг. абуджае любоў да жывапісу, мадэрнізм аказвае надзвычайны ўплыў на нуварышаў; у адрозненне ад перадваеннага часу мастакі назіраюць у сваіх майстэрнях чароды калекцыянераў, функцыянуюць галерэі. Творы мастацтва становяцца прадметам свайго роду спекуляцыі.

Маршаны выступаюць пасрэднікамі для заможных амерыканскіх калекцыянераў. Сярод іх Жорж Шэран, Рэнэ Жымпель, а таксама Поль Гіём, які далучыўся да мадэрнізму дзякуючы Апалінэру.

Тры жанчыны, якія кіравалі галерэямі, – Берта Вейль, Ядвіга Зак (удава мастака Яўгена Зака) і Каця Граноф – аказвалі падтрымку мастакам Парыжскай школы.

Асаблівай увагі заслугоўвае Леапольд Збароўскі – польскі паэт і маршан, які прыехаў з Галіцыі. З першых хвілін знаёмства з Мадыльяні і Суціным, Кіслінгам, Леонам Вайсбергам, Яўгенам Эбішам, Ісакам Анчарам, Аронам Хаберам Беронам ён зацікавіўся іх творчасцю. У 1926 г. Збароўскі адкрывае ўласную галерэю на Ру-дэ-Сэн, 26.

Рэнэ Жымпель пісаў пра яго ў сваім «Дзённіку калекцыянера», распавядаючы пра падзеі, якія адбыліся 9 верасня 1928 г.: «Гэты польскі маршан Збароўскі, які мае асаблівы нюх,  дарэчы, хрысціянін, сказаў мне, што двума самымі выбітнымі мастакамі пакалення, якое прыйдзе на змену Дэрэну, Мацісу, Пікаса, будуць іудзеі Мадыльяні і Суцін. (…) Ён адзначае ў іудзеяў адраджэнне духу, пераход ад крытычнага мыслення да творчага і знаходзіць, што місія яўрэйскага народа не ў тым, каб ствараць мастацтва, а ў падтрымцы дынамізму, у недапушчальнасці скочвання да бязвольнасці».

**Яны прыбылі ў эпоху фавізму і кубізму**

Хаім Суцін, Амедэа Мадыльяні, Наталі Крэмер, Ісак Дабрынскі, Макс Банд, Лазар Валавік, Зігмунд Ландау, Яўген Эбіш, Вілі Айзеншыц – яны аднавілі французскую традыцыю пейзажу, нацюрморта, прышчапілі нетрадыцыйны густ да партрэтнага жывапісу. Некаторыя мастакі (Абрам Мінчын, Міхаіл Кікоін, Пінхус Крэмень, Анры Эпштэйн, Адольф Федэр, Зігмунд Менкес, Мэла Мутэр) пайшлі па шляху кубізму або экспрэсіянізму ў пошуках прастаты, не ўліваючыся ў авангардысцкія плыні, застаючыся ў баку ад спекуляцый на глебе абстракцыянізму і фармалістычных ваганняў дзеля экспрэсіі.

Частка мастакоў актыўна далучаецца да мадэрнізму, як Ота Фрэйндліх, адзін з тэарэтыкаў абстракцыянізму, мастак, які заняў у вышэйшай ступені цвёрдую пазіцыю па ўсіх напрамках даследаванняў у галіне абстракцыянізму. Зближэнне з сюррэалістамі, а затым адыход ад іх паўплываў на творчасць мастака Грэгуара Мішонца – незвычайную,



**«Вулей» на пачатку XX ст.**
**«Улей» в начале XX в.**



**Надзін Незавер. 2011**
**Надин Незавер. 2011**

фігуратыўную і разам з тым – неапавядальную, якая засталася прытым пазачасавай. Асаблівай увагі заслугоўвае мастак Аляксандр Фасіні, якога цяжка аднесці да якой-небудзь адной пэўнай плыні і пра жыццё якога мала вядома. Яго жывапіс адрозніваецца актыўным імкненнем да новых форм самавыяўлення і пастаянным пошукам. Генрык Берлеві, актыўны прадстаўнік нямецкага авангардызму, стаў прадвеснікам кінетычнага мастацтва. Пачынаючы з 1922 г. ён у сваіх «Механафактурах» займаўся канкрэтызацыяй вылучанай ім жа абстракцыянісцкай тэорыі супастаўлення статыкі і дынамікі, прапаведваў культ машыны і механічнага руху. І Луі Маркусі, і Генры Хейдэн абралі шлях кубізму. Іх творчасць з самага пачатку непарыўна звязана з гісторыяй гэтай плыні.

А такія мастакі, як Філіп Газіансон, Леон Зак, Шыгізмонд Калош-Вар і Феліцыа Пацаноўска, поўнасцю адмовіліся ад фігуратыўнага мастацтва, перажыўшы халакост. Яны сутыкнуліся з чалавеканенавісnасцю, трапілі пад удар гісторыі. Іх жывапіс стаў выключна абстрактным.

Ілля Эрэнбург успамінаў, што магла абазначаць «Ратонда» для ўсіх тых, хто туліўся ў халупах і дрэнных гасцініцах: «Мы прыходзілі ў “Ратонду” таму, што нас цягнула адзін да аднаго. Не скандалы нас вабілі; мы нават не натхняліся смелымі эстэтычнымі тэорыямі; мы проста цягнуліся адзін да аднаго: нас радніла пачуццё агульнага недабрабыту».

І ўсё ж, нягледзячы на ўсе цяжкасці, у мастакоў, якія абасноваліся ў Парыжы ў 1900–1912 гг., быў час утварыць кола знаёмстваў, наладзіць патрэбныя сувязі для творчага ўзлёту. За імі няспынна прыбывалі іх новыя калегі, якіх маніў Манпарнас, каб працягнуць традыцыі Парыжскай школы.

**Надзін Незавер,**
аўтар даведніка «Яўрэйскія мастакі Парыжскай школы, 1905–1939 гг.», эксперт па Парыжскай школе 1905–1939 гг. Французскага саюза экспертаў

# Парижская школа

## Мировая столица искусства

Париж любим художниками всего мира. Из Америки в этот город прибыли Морган Расселл в 1906 г., Ман Рэй – в 1921 и Александр Колдер – в 1926 г.; из Канады – Джеймс Уилсон Моррис в 1908 г.; из Японии – Леонар (Тсугухару) Фужита в 1913 г., Тошио Бандо – в 1921 и Сеи Коянагуи – в 1920 г.; из Греции – Димитриос Галанис в 1900 г. и Георгос Гунаропулос (Ж. Гунаро) – в 1919; из Италии – Джино Северини и Амедео Модильяни в 1906 г., Джорджо де Кирико – в 1911, Массимо Кампильи – в 1919, Марио Тоцци – в 1920 и Филиппо де Пизис – в 1925 г.; из Мексики – Анхель Саррага в 1904 г. и Диего Ривера – в 1912, а также чилиец Мануэль Ортис де Сарате в 1906 г.; из Аргентины – Элена Сид в 1925 г.; из Норвегии – семья Крог в 1889 г.; из Швеции – Исаак Грюнвальд в 1908 г.; из Китая – Чанг Ю в 1921 г.; из Англии – Гарри Блумфилд в 1912 г.; из Голландии – Кис ван Донген в 1897 и Пит Мондриан – в 1912 г.; из Туниса – Джилани Абдул Вахаб в 1911 г.; из Испании – Пабло Пикассо в 1900 г., Хуан Грис – в 1906, Франсиско Борес – в 1925 и Антони Клаве – в 1927 г.; из России – Михаил Ларионов в 1906 г., Александр Архипенко – в 1908, Иван (Жан) Пуни –в 1910, Антон Певзнер – в 1911, Казимир Малевич – в 1912, Владимир Татлин – в 1913 и Наталья Гончарова – в 1914 г.; из Болгарии – Жюль Паскен в 1905 г. и Георги (Жорж) Папазов– в 1924; из Германии – Франц Марк в 1903 г., Макс Пехштейн – в 1907, русские Алексей Явленский – в 1905 и Василий Кандинский – в 1906 г.

Из Беларуси же приехали Зак в 1900 г., Оскар Мещанинов – в 1907, Осип Цадкин – в 1909, Марк Шагал и Яков Балглей – в 1911, Михаил (Мишель) Кикоин и Пинхус Кремень – в 1912, Хаим Сутин – в 1913, Израиль Левин и Осип Любич – в 1923, Сэм Царфин – в 1924, Надя Ходасевич-Леже – в 1925, Яков Милкин – в 1928 г.

Этот список отнюдь не полный, но он свидетельствует о том, что художники в Париж приезжали со всех четырех сторон света. В 1905 г. на Осеннем салоне были выставлены работы Анри Матисса, Андре Дерена, Мориса де Вламинка – представителей нового направления в живописи, получившего название «фовизм». В 1906 г. в Бато-Лавуар Пабло Пикассо открывает постсезанновское течение – кубизм.

## Что называют «Парижской школой»?

Перед Первой мировой войной Европа погружается в бурлящую атмосферу художественного авангарда, центром которого становится Париж. Границы уже не имеют значения, Париж – полигон для самых дерзких и радикальных экспериментов в живописи, международная лаборатория искусства.

«Парижская школа» – термин, введенный художественным критиком Андре Варно в 1925 г. в журнале «Комедия» для обозначения группы, образованной иностранными художниками в Париже. «Парижская школа» означает не движение или школу в академическом понимании, а исторический факт.

## Возникновение Парижской школы (1905–1914)

Художники приезжают с Востока: России, Польши, Болгарии, Чехословакии, Румынии, Венгрии. Им уже известно творчество великих мастеров Франции XIX в., знают они и об импрессионистах благодаря своим наставникам: Юзефу Панкевичу в Кракове, Илье Репину в Петербурге, Адольфу Феньешу в Будапеште, Ловису Коринту в Берлине и Юделю Пэну в Витебске.

Вскоре война 1914–1918 гг. разбросает их по миру: Рудольф Леви, Вальтер Бонди и Отто Фрейндлих снова окажутся в Германии, Леопольд Готтлиб направится в Польшу, где поступит на службу в армию Пилсудского. В Россию возвратятся Марк Шагал, Мане-Кац, Савелий Шлейфер. Многие из оставшихся запишутся добровольцами во французскую армию. Кислинга демобилизуют в 1915 г. вследствие ранения, друг Аполлинера Маркусси получит награду, а Мондзен снимет военную форму лишь в июле 1918 г.

Те, кого забраковали по состоянию здоровья, будут добровольно выполнять трудовую повинность, как, например, Модильяни и Сутин.

Уклоняясь от службы в болгарской армии, Жюль Паскен уедет в Лондон.

В годы войны художники, оставшиеся в Париже без пособий и какой-либо помощи, объединяются. В 1915 г. Мария Васильева открывает в своей мастерской в доме № 21, что в тупике на авеню Мэн, столовую, в которой на протяжении всех военных лет будет людно и многоязычно.

Первая мировая война – это период, когда художники Монпарнаса готовятся к появлению на парижском художественном небосклоне.

В декабре 1915 г. Жермен Бонгар, сестра модельера Поля Пуаре, организует серию выставок в своем магазине на улице Пантьевр, первая из которых включает в себя работы Модильяни, Кислинга наряду с картинами Пикассо, Леже, Матисса, Дерена.

В декабре 1917 г. Л. Зборовский организует первую выставку Модильяни в галерее Берты Вейль на улице Тетбу. Берта Вейль в своих мемуарах так описывает это событие:

«В субботу был монтаж выставки, а в понедельник, 3 декабря 1917 года, – вернисаж. Пышные обнаженные тела, угловатые фигуры, соблазнительные портреты, отборная компания (...) “С владелицей галереи желает побеседовать комиссар полиции”. Прихожу, там уже полно людей... Спрашиваю:

— Вы хотели меня видеть?

— Да, и я вам приказываю немедленно снять всю эту непристойность. (...)

— А в чем она, в этих обнаженных? (...)

— Этих обнаженных... У них же там... ввволосы!»

В 1919 г. в галерее Друэ на правом берегу Сены проходит выставка, посвященная Кислингу, которому всего лишь 28 лет.

## Монпарнас – территория Парижской школы

*«На Монпарнасе на протяжении двадцати лет из-под полы либо под столами кафе “Ротонда”, “Дом”, “Куполь” перекупщики перепродавали эскизы Дерена, акварели Утрилло, рисунки Модильяни, графические наброски Пикассо, которые каким-то странным образом не оказались в папках самих художников».*

*Флоран Фельс. Роман живого искусства, 1959.*

*«23 июня 1914 г. Монпарнас...*
*Отныне на смену Монмартру (Горе мучеников) приходит Монпарнас (Гора Парнаса). И тут, и там не обойтись без альпинизма, ибо и тут, и там гора, а искусство – на их вершинах... Начинающим художникам неудобно на современном Монмартре, тяжело карабкаться на гору, полно типов, выдающих себя за художников, предпринимателей с неумной фантазией, опустившихся курильщиков опиума. На Монпарнасе же, напротив, встречаешь настоящих художников, одетых по-американски. (...)*
*Вот где милое место, над которым небо располагает к пребыванию на улице, где свежий воздух на террасах кафе “Клозери де Лила”, (...) “Ротонда”, (...) “Дом”».*

*Гийом Аполлинер. Хроники искусства, 1902–1918.*

## Три легендарных кафе на перекрестке Вавен (1905–1939)

Образ Монпарнаса сложился в кафе.

Кафе – главное место сбора для художников, натурщиц, коллекционеров, торговцев искусством – маршанов: тут назначаются встречи, ведутся беседы, представляются только что прибывшие новички, заключаются сделки и задумываются выставки.

Но прежде всего кафе были ежедневным пристанищем для неустроенных художников, местом, где они могли найти покой и уют.

Дух Парижской школы особенным образом поддерживался в трех из них.

### Кафе «Дом»

Кафе было открыто в 1898 г., а начиная с 1903 ему стали оказывать предпочтение, следуя традициям мюнхенских кафе, немецкоговорящие еврейские художники: Вальтер Бонди, Рудольф Леви, Бела Цобель, Жюль Паскен. Здесь они знакомились

с маршанами – Альфредом Флетхаймом, Генри Бингом… Образуются и другие сообщества художников – выходцев из Голландии и Скандинавии.

В июне 1914 г. Альфред Флетхайм в своей галерее в Дюссельдорфе организует выставку под названием «Домьеры», по поводу которой скажет: «Они все были художниками-иностранцами, жившими в Париже, встречавшимися в одном и том же кафе и любившими Париж».

**Кафе «Ротонда»**

Старое заведение, которое в 1911 г. взял в свои руки Виктор Либион. Отличавшийся исключительной щедростью в отношении людей искусства, он привечал художников, поэтов всех течений. Оказавшись на чужбине, они себя чувствовали в «Ротонде» как дома, переходя от столика к столику, часами наслаждаясь теплом и чашкой кофе со сливками, которую они получали в кредит или за свои рисунки.

Среди художников самых разных национальностей особенно заметными были русские евреи. Завсегдатаями «Ротонды» стали Кремень, Сутин, Кикоин, а «ковбой» Самуэль Грановский помогал время от времени по хозяйству в обмен на еду и выпивку. Бывали здесь и Михаил Ларионов, Наталья Гончарова, Адольф Федер.

В 1920 г. финансовые трудности вынудили Либиона продать «Ротонду».

Он, как и маршаны, в значительной мере поспособствовал формированию образа жизни той эпохи своей позицией, новым восприятием мира. Говорят, что Андре Сальмон многие годы агитировал за замену статуи Бальзака на бульваре Распай на памятник Либиону.

**Кафе «Куполь»**

Кафе было открыто в декабре 1927 г. бывшими управляющими кафе «Дом» Эрнестом Фро и Рене Лафоном. Созданное на пике славы Монпарнаса, в духе тех «сумасшедших» лет, оно состояло из собственно кафе, ресторана, бара в американском стиле и танцевального зала. Стены и колонны кафе декорировали три десятка художников: Фернан Леже, Отон Фриез, Мария Васильева, Жорж Карс, Давид Зайферт, Натан Грюнсвейг.

## Академии

Это была эпоха первых академий – Академии Гранд Шомьер, Академии Матисса. Они предлагали «либеральное» образование, отличное от того, которое можно получить в Высшей школе изящных искусств.

Старейшее из этих учебных заведений – Академия Коларосси, основанная в 1815 г., но перешедшая в 1870 г. под руководство Филиппо Коларосси, который расположил ее в доме № 10 на улице Гранд Шомьер. Маревна (Мария Воробьева-Стебельская) назвала ее муравейником, где неустанно трудятся представители самых разных национальностей. В Академии Жюльена, основанной в 1868 г. художником Родольфом Жюльеном, обучение было построено по образцу Высшей школы изящных искусств. Помимо самого Жюльена в ней поочередно преподавали такие официально признанные мэтры, как Вильям-Адольф Бугро, Тони-Роббер Флери и Жан-Поль Лоран.

Большинство художников не могло сразу поступить в Школу изящных искусств, а в академиях давали возможность порисовать с натуры в ожидании следующего набора в нее. В этой школе самыми посещаемыми были мастерские Фернана Кормона и Гюстава Моро.

**«Улей»**

Многие художники, вспоминая о том времени, рассказывали, что приезжали на Северный вокзал Парижа с несколькими монетами в кармане и адресом: «Монпарнас» или просто «переулок Данциг».

«Улей» – здание под № 2 в переулке Данциг, в котором были обустроены мастерские художников, – находилось прямо напротив скотобоен. Это сооружение в виде ротонды, собранное из элементов павильонов Всемирной выставки 1900 г., является творением скульптора Альфреда Буше, награжденного медалями за свои произведения, создавшего скульптурные портреты многих известных литераторов и политиков.

У скульптора-идеалиста было желание создать городок для художников, мастерские, где они могли бы жить и работать за минимальную плату.

Буше задумывал создать учебный класс с натурщицами, выставочный зал и театр на триста мест с добровольной платой за входной билет. В итоге были обустроены около ста сорока небольших по размеру и лишенных удобств мастерских.

Официальное открытие «Улья» состоялось весной 1902 г.

Для молодых художников, прибывших с Востока, – Альтмана, Грановского, Шагала, Добринского, Кременя, Кикоина, Сутина, Эпштейна, Шапиро, Воловика, Готко, Пайлеса – «Улей» становится пристанищем, откуда благодаря им подует революционный ветер.

Шагал в «Моей жизни» так описывает скотобойни квартала Вожирар: «Там, вдалеке резали животных, коровы мычали, а я их рисовал… я до сих пор слышу этот рев во сне, когда им отрезали головы, и память рисует картины далекой России, где у моего дедушки была своя мясная лавка».

***1960-я*** – рэтраспектыўная выстаўка ў музеі горада Кань-сюр-Мэр (Францыя); персанальныя выстаўкі ў Бардо (1956), Нью-Ёрку (галерэя N. Glaezer, 1962), Парыжы (галерэя J. Shalom, 1963), Сэн-Поль-дэ-Вансе (1968). Удзельнічаў у выстаўках «La Ruche» (галерэя Montmorency, 1960), «Рускія мастакі Парыжскай школы» (Дом французскай думкі, 1961), у Салоне Параўнанняў (1961, 1969) і Салоне знакамітых і маладых мастакоў (1960, 1961, 1962).
***1964*** – першая прэмія Салона мастакоў за карціну «Каханне – крыніца жыцця».
***1968, 4 лістапада*** – памёр у парыжскай майстэрні ад інфаркту.
***1973, кастрычнік*** – мемарыяльная выстаўка ў галерэі «Дэ Франс» (De France, Парыж).
***1970–1980-я*** – работы М. Кікоіна неаднаразова экспанаваліся на рэтраспектыўных выстаўках, прысвечаных Парыжскай мастацкай школе: «Мастакі Манпарнаса» («Гупіл» (Goupil), Лондан, 1970), выстаўка літаграфій (галерэя «Шэўроз» (Chevreuse), 1971), «Значныя карціны рускіх мастакоў у французскіх калекцыях» (Восеньскі салон, 1972), «Рускі погляд» (Гейдэльберг, 1974), «Парыжская школа Манпарнаса. Пуні і яго асяроддзе» (Салон «Роз-Круа» (Salon de la Rose-Croix), 1985) і інш.
***2003*** – работы экспанаваліся ў Дзяржаўным Рускім музеі (Санкт-Пецярбург) на выстаўцы «Рускі Парыж».
***2011*** – работы выстаўляліся на выстаўцы «Парыжская школа. З музеяў і прыватных калекцый Парыжа, Жэневы, Масквы» ў Дзяржаўным музеі выяўленчых мастацтваў імя А. С. Пушкіна ў Маскве.

Карціны мастака знаходзяцца ў многіх музеях, галерэях і прыватных зборах Францыі, Ізраіля, ЗША, Расіі і Беларусі.

## Крэмень Пінхус (Пінкас, Пінкус)
## Krémègne Pinchus
## 1890–1981




П. Крэмень з сям'ёй. 1924
П. Кремень с семьей. 1924

***1890, 28 ліпеня*** – нарадзіўся ў м. Жалудок Лідскага павета Гродзенскай губерні, Расійская імперыя (цяпер – г. п. Жалудок у Шчучынскім раёне Гродзенскай вобласці, Рэспубліка Беларусь), у шматдзетнай сям'і рамесніка-саматужніка – разьбяра па дрэве. Быў малодшым з дзевяцярых дзяцей.

***1909–1912*** – дзякуючы бацькавай матэрыяльнай падтрымцы вучыўся ў Віленскай народнай мастацкай школе акадэміка Івана Трутнева, дзе пазнаёміўся з Хаімам Суціным і Міхаілам Кікоіным.

***1912*** – праз Германію паехаў у Парыж, жыў у камуне мастакоў «Вулей».

***1913–1915*** – штогод выстаўляўся ў Салоне незалежных, экспанаваў тры скульптурныя работы (1914). Перастае займацца скульптурай.

***1916–1917*** – карціны мастака, якія былі напісаны ў духу «ўмеранага» экспрэсіянізму, пачалі купляць вядомыя парыжскія маршаны П. Гіём, Л. Збароўскі, камісар паліцыі Л. Замарон.

***1918*** – упершыню наведвае гарадок Серэ на поўдні Францыі (дэпартамент Усходнія Пірэнеі), месца частага знаходжання на працягу далейшага жыцця.

***1919*** – першая персанальная выстаўка ў Парыжы ў галерэі «Жак Павалоцкі» (J. Povolozky).

***1920*** – удзел у калектыўнай выстаўцы ў Парыжы ў галерэі «Дэвамбэ» (Devambez).

***1921–1922*** – творы мастака экспанаваліся ў Парыжы на выстаўках Восеньскага салона і ў галерэі «Гупіл і кампанія» (Goupil & Cie), у кафэ «Парнас» (Le Parnasse, 1922); у Лондане ў галерэі «Уайтчэпл» (Whitechapel, 1921).

***1923*** – падчас вандроўкі па Корсіцы сустрэў шведку Біргіт Стромбак (аканомку ў сям'і А. Нобеля), якая стала яго жонкай. Падпісаў першы кантракт з маршанам П. Гіёмам; удзельнічаў у выстаўцы рускіх мастакоў у парыжскай галерэі «Ла Лікорн» (La Licorne).

***1924*** – выстаўка ў Салоне Цюільры (Salon des Tuileries) ў Парыжы. Удзел у зборах і выстаўках групы «Цераз» у кафэ «Порт-Раяль» (Café de Port-Royal).

***1924–1926*** – прымаў удзел у выстаўках Восеньскага салона і групавых выстаўках у галерэях «Ла Лікорн» (La Licorne, 1924), «Шампін'і» (Champigny, 1925), «Катр Шмэн» (Quatre Chemins, 1926) у Парыжы. Нараджэнне сына Альфрэда (Фрэда). (Альфрэд Крэмень у далейшым – экспарцёр французскіх фільмаў).

***1927*** – заключыў кантракт з парыжскай галерэяй «Ван Лер» (Van Leer), дзе ў далейшым адбыліся тры яго выстаўкі (1927, 1929, 1931).

***1928–1929*** – паездкі ў Кань-сюр-Мэр (Францыя) і Швецыю. Творы мастака экспанаваліся на выстаўцы «Сучаснае французскае мастацтва» ў Маскве (1928).

***1930*** – выйшла ў свет першая кніга крытыка Вальдэмара Жоржа пра творчасць мастака (George W. Krémègne. Paris: Triangle, 1930).

***1931–1936*** – творы мастака экспанаваліся ў галерэях «Друэ» (Druet, 1932), «Жэрбо» (Gerbo, 1936), ва ўласнай майстэрні (1933), на выстаўках рускіх мастакоў у Парыжы ў галерэях «Д'Аліньян» (D'Alignan, 1931), «Эпоха» (L'Époque, 1931, 1932), «Рэнесанс» (La Renaissance, 1932), «Зак» (Zak; арганізавана часопісам «Наш Саюз», 1936), у Празе (1935).

***1937–1938*** – нейкі час жыў у Бургундыі, затым недалёка ад Буржа (1938). Адправіў жонку з сынам у Швецыю.

***1939–1944*** – у пачатку Другой сусветнай вайны хаваўся ў «вольнай зоне» ў Цюрэне дэпартамента Карэз на поўдні Францыі, быў там мабілізаваны для працы на ферме (1943). Галерэя з Тулузы забяспечвала яго фарбамі, каб ён мог маляваць.

***1944*** – вярнуўся ў Парыж, у майстэрню на вуліцы Гібера.

***1945–1946*** – удзельнічаў у выстаўцы, арганізаванай камітэтам «Францыя – СССР» XIV акругі Парыжа (1945), і выстаўцы «У гонар Перамогі», наладжанай Саюзам савецкіх патрыётаў (1946). Персанальная выстаўка ў галерэі «Кроз» (Creuse) у Парыжы. Набыццё зямельнага ўчастка і будаўніцтва дома-майстэрні ў Серэ.

***1949–1956*** – жыў у Ізраілі; удзел у выстаўках у Іерусаліме, Лондане (Redfern, 1954), Парыжы (Creuse, 1946; Art vivant, 1951; Mouradian-Vallotton, 1955).

***1958*** – персанальная выстаўка ў Мастацкай галерэі «Коулман» (Coleman) у Філадэльфіі (ЗША).

***1959–1978*** – выстаўкі ў Парыжы, Лондане, Руані, Жэневе. Экспанаваў свае творы на выстаўках «Манэ-Кац і яго час» у Музеі Пеці-Пале (Petit Palais) у Жэневе (1969), «Вулей і Манпарнас 1902–1930» у Музеі Жакмар-Андрэ (Musée Jacquemart-André) у Парыжы (1978).

***1960–я*** – удзел у выстаўках «Рускія мастакі Парыжскай школы» ў Сэн-Дэні (1960) і ў Парыжы (Дом французскай думкі, 1961), у галерэях «Дзюран-Руэль» (Durand-Ruel, 1960, 1969), «Дж. Шалом» (J. Chalom, 1962). Нараджэнне ўнучкі Сафі Крэмень – у будучым вядомай французскай піяністкі і кампазітара.

***1966*** – наведванне Ізраіля.

***1969*** – выстаўка ў Жэневе.

***1970–я*** – прымаў удзел у групавых выстаўках «Мастакі Манпарнаса» ў Лондане ў галерэі «Гупіл» (Goupil, 1970), «Значныя карціны рускіх мастакоў у французскіх калекцыях» у Парыжы (Восеньскі салон, 1972), «Рускі погляд» у Гейдэльбергу (1974), у выстаўцы ў Канах (1974).

***1981, 5 красавіка*** – памёр у сваім доме ў Серэ. Пахаваны на могілках Манпарнас у Парыжы.

***2003*** – работы мастака экспанаваліся на выстаўцы «Рускі Парыж» у Дзяржаўным Рускім музеі ў Санкт-Пецярбургу.

Імем Пінхуса Крэменя названа вуліца ў Серэ.

Большая частка карцін мастака Крэменя знаходзяцца ў Музеі сучаснага мастацтва ў Серэ (Musée d'art moderne de Céret), а таксама ў шматлікіх музеях Францыі і іншых краін Заходняй Еўропы, Ізраіля, ЗША, у прыватных калекцыях Расіі і Беларусі.

## Любіч Восіп
## Lubitch Ossip
## 1896–1990




В. Любіч. Фота. 1930-я. Парыж
О. Любич. Фото. 1930-е. Париж

***1896, 6 снежня*** – нарадзіўся ў г. Гродна, Расійская імперыя (цяпер – абласны цэнтр г. Гродна, Рэспубліка Беларусь) у сям'і каваля Меера Любіча.

***1908–1915*** – вучыўся ў 7-класнай мужчынскай гімназіі ў Гродна, браў урокі ігры на скрыпцы. Закрыццё гімназіі ў сувязі з пачаткам Першай сусветнай вайны.

***1915–1919*** – пераезд у Адэсу. Вучоба ў Адэскім мастацкім вучылішчы Таварыства вытанчаных мастацтваў імя Вялікага князя Уладзіміра Аляксандравіча пад кіраўніцтвам Кірыяка Кастандзі.

***1919*** – пераезд у Берлін для працы над інтэр'ерамі тэатраў і кінатэатраў.

***1920–1923*** – працаваў дэкаратарам у Берлінскай оперы, афармляў спектаклі тэатра-кабарэ «Сіняя птушка» Яшы Южнага і тэатра Ісака Дувана-Тарцова (разам з групай рускіх мастакоў – Паўлам Чэлішчавым, Іванам Пуні і Лазарам Меерсонам).

Падпрацоўваў статыстам, іграў у кінатэатрах на скрыпцы.

***1923*** – пераезд у Парыж у сувязі з атрыманнем заказу на афармленне парыжскага кабарэ «Chateau des Carpathes». Жыў на вуліцы Кампань-Прэм'ер (Campagne Première) на Манпарнасе, затым на вуліцах Белані (Belloni) і Адэса (d'Odessa). Працаваў алеем і гуашшу, займаўся гравюрай, афортам. Пісаў пейзажы, партрэты, жанравыя карціны і нацюрморты.

***1925*** – па рэкамендацыі скульптара Эміля Антуана Бурдэля (Emile Antoine Bourdelle) – выкладчыка акадэміі Гранд Шам'ер (Académie Grande Chaumière) – выстаўляў работы ў Салоне Цюільры.

***З 1926*** – выстаўкі ў Восеньскім салоне.

***1929–1936*** – удзельнічаў у групавых выстаўках рускіх мастакоў у галерэях Парыжа: «Дамінік» (Dominique, 1929), «Зак» (Zak, 1930), «Эпоха» (L'Epoque, 1931), «Д'Аліньян» (D'Alignan, 1931), «Катр Шмэн» (Quatre Chemins, 1932). Наведваў групу музыкантаў «Triton», якая складалася з маладых кампазітараў і піяністаў.

***1934*** – выпусціў альбом акватынт «Цырк» («Cirque», 1934, выдавецтва «Quatre Chemins») з тэкстам вядомага жывапісца і графіка Жоржа Руо (Georges Henri Rouault, 1871–1958).

***1934–1937*** – выстаўляў работы ў салонах Абмена (1934), Сучаснага мастацтва (L'Art Moderne, 1936), «Папуліст» («Populiste», 1937), на выстаўках «Парыжскія мастакі. 1925–1935» (Брусэль, 1935), у Цюрыху (1935), Ліможы (1936), Лондане (1936).

***1940–1944*** – падаў дакументы на атрыманне французскага грамадзянства. Падчас Другой сусветнай вайны заставаўся ў Парыжы ў сваёй майстэрні. Адмовіўся ад добраахвотнай заявы ў паліцэйскі ўчастак пра сваё яўрэйскае паходжанне. Пісаў нацюрморты, пейзажы, партрэты.

***1944*** – 18 жніўня па даносе трапіў у транзітны лагер Дрансі (на наступны дзень пасля адпраўкі партыі зняволеных у лагер смерці Аўшвіц), але пры вызваленні Парыжа 25 жніўня збег. Маляваў сцэны паўсядзённага жыцця вязняў лагера Дрансі.

***1945, восень*** – вяртанне ў Парыж пасля вызвалення Францыі. Знаёмства з маладой мастачкай Сюзанай Бульдуар (Suzanne Bouldoire, 1926–2010) з Суасона, якая стала яго жонкай. Удзел у выстаўках, арганізаваных Саюзам рускіх патрыётаў (люты) і камітэтам «Францыя – СССР» (май – чэрвень); у выстаўцы карцін, якія былі ахвяраваны мастакамі для продажу з аўкцыёна на карысць былых савецкіх ваеннапалонных. Адмовіўся ад намеру атрымаць французскае грамадзянства і да канца жыцця не меў ніякага грамадзянства (паводле звестак дачкі мастака Дзіны Любіч).

***1948*** – персанальная выстаўка ў галерэі «Зак» (Zak) у Парыжы.

***1950*** – удзел у калектыўнай выстаўцы ў Нацыянальным музеі Бецалель у Іерусаліме (Ізраіль). Падарыў малюнкі пра жыццё ў лагеры Дрансі Музею Яд-Вашэм (Jad-Vashem Museum) у Іерусаліме. Нараджэнне 26 ліпеня дачкі Дзіны – у будучым філолага і французскай мастачкі-графіка. Выстаўка ў галерэі «Саго-Ле Гарэк» (Sagot-Le Garrek).

***1952*** – персанальная выстаўка ў галерэі «Артэ-Каіролі» (Arte-Cairoli) у Мілане.

***1953*** – выстаўка ў Турыне.

***1957*** – персанальная выстаўка ў Нью-Ёрку.

***1960–1967*** – выстаўкі «Рускія мастакі Парыжскай школы» ў музеі і бібліятэцы Сэн-Дэні (1960) і ў Доме французскай думкі ў Парыжы (1961), у галерэі «Дзюран-Руэль» (Durand-Ruel, 1967).

***1973*** – выстаўка «Рускае бачанне» (Vision russe) у галерэі «Мот» (Motte, Парыж).

***1975*** – напісаў уступны артыкул да зборніка «Малюнкі і накіды тушшу» («Dessins et lavis»).

***1976*** – выданне альбома малюнкаў (Lubitch. Dessins-lavis. Jontville-le-Paih. Pierre Jean Balbo editeur. 1976).

***1983*** – выстаўка ў Салоне «Роз-Круа» (Salon de la Rose-Croix) у Парыжы.

***1990, 27 лістапада*** – памёр у Парыжы ад хваробы сэрца ва ўзросце 94 гадоў. Пахаваны на могілках Манпарнас.

Палотны Восіпа Любіча захоўваюцца ў некалькіх музеях Францыі, а таксама ў музеях Вялікабрытаніі (Лондан), Германіі (Цюрых), ЗША (Нью-Ёрк) і Ізраіля (Тэль-Авіў). Гравюры знаходзяцца ў зборах Нацыянальнай бібліятэкі ў Парыжы.

## Суцін Хаім
## Soutine Chaïm
## 1893/1894?–1943




**Х. Суцін. Фота. Пачатак 1930-х. Парыж**
**Х. Сутин. Фото. Начало 1930-х. Париж**

***1893 (1894?), 13 студзеня*** – нарадзіўся ў м. Смілавічы Ігуменскага павета Мінскай губерні (цяпер – г. п. Смілавічы Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці) у сям'і краўца Залмана Суціна і быў дзясятым з адзінаццаці дзяцей.

***1903*** – пасланы ў Мінск для навучання кравецкай справе ў мужа старэйшай сястры Меткі Грогер Гольдман.

***1907 (1909?)*** – пачатак вучобы ў прыватнай Малявальнай школе Якава Кругера (1868–1940). Працаваў рэтушорам у фотаатэлье. Знаёмства з Міхаілам Кікоіным, студэнтам Камерцыйнага вучылішча ў Мінску.

***1909*** – пераезд у Вільна. Па рэкамендацыі Я. Кругера з другой спробы паступіў у Віленскую народную малявальную школу (кіраўніком якой быў акадэмік Іван Трутнеў) у клас Івана Рыбакова (1870–1936), выпускніка Пецярбургскай акадэміі мастацтваў.

***1909–1912*** – вучоба ў Малявальнай школе ў Вільна. Знаёмства з Дэборай Мельнік і Пінхусам Крэменем. Падпрацоўваў памочнікам у адваката Рубінліхта, які накіраваў яго ў Віленскае яўрэйскае мастацка-прамысловае таварыства імя М. М. Антакольскага (1904–1915). Там Суцін, напэўна, атрымаў сродкі, на якія змог з'ехаць у Парыж і пражыць нейкі час.

***1913*** – прыехаў у Парыж і пасяліўся ў «Вуллі». 13 ліпеня запісаўся ў Школу вытанчаных мастацтваў у майстэрню Фернана Кармона (Fernand Cormon, 1845–1924). Працаваў на заводзе «Рэно», грузчыкам на вакзале Манпарнас.

***1914*** – 4 жніўня атрымаў статус бежанца і дазвол на знаходжанне ў прэфектуры XV акругі Парыжа. Запісаўся валанцёрам у французскую працоўную армію – рыў акопы, быў звольнены па стане здароўя. Маляваў у майстэрні свайго сябра скульптара Оскара Мешчанінава.

***1915*** – знаёмства з Амедэа Мадыльяні і праз яго з маршанамі Жоржам Шэронам і Леапольдам Збароўскім. Жыў і працаваў у «Вуллі», пастаянна пакутаваў ад хваробы страўніка. У тым жа годзе пераехаў у майстэрню ў Сітэ Фальг'ер (Cité Falguière) недалёка ад Манпарнаса. Працаваў грузчыкам, рознарабочым, чарцёжнікам, натуршчыкам, дэкаратарам.

***1916*** – маршан Л. Збароўскі пачаў купляць карціны Суціна.

***1918*** – першыя паездкі на поўдзень Францыі ў Ванс, Кань-сюр-Мэр і Серэ, якія арганізаваў Збароўскі.

***1919*** – атрымаў від на жыхарства ў Францыі. Збароўскі накіраваў Суціна працаваць на поўдзень Францыі ў Русільён і Серэ, дзе ён працаваў разам з Мішэлем Кікоіным. Апошняя сустрэча ў Серэ з Амедэа Мадыльяні, які быў яго самым блізкім сябрам (Мадыльяні памёр у 1920).

***1920–1922*** – працаваў у Серэ, напісаў больш за 200 карцін, пераважна пейзажаў. Швейцарскі мастак Эміль Лежэн заказаў яму серыю карцін «Тыя, што моляцца». Вяртанне ў Парыж і жыццё ў «Вуллі». Перыядычныя паездкі на поўдзень Францыі. Удзел у выстаўцы «47 мастакоў» у кафэ «Парнас» (Le Parnasse). Знаёмства з калекцыянерамі мужам і жонкай Кастэнамі – мастацкім крытыкам Марселенам і антыкварам і дызайнерам Мадлен.

***1923*** – амерыканскі маршан доктар Альберт Барнс (Albert Coombs Barnes, 1872–1951) купіў у Збароўскага 52 карціны мастака. Суцін працаваў у Кань-сюр-Мэр, удзельнічаў у выстаўках у галерэях «Ла Лікорн» (La Licorne) і «Поль Гіём» (Paul Guillaume).

***1924*** – паспяховы продаж работ Суціна Збароўскім. Мастак стаў вядомым, яго дабрабыт палепшыўся. Суцін вышуквае і знішчае свае работы, створаныя ў Серэ.

***1925*** – вярнуўся ў Парыж і ўехаў у прасторную майстэрню на вуліцы Мон-Сен-Гатар недалёка ад плошчы Данфер-Рашро. Пісаў карціны з выявамі бычыных туш. Узяў рэлігійны шлюб з Дэборай Мельнік, якая вучылася спевам. Нараджэнне дачкі Эмэ, якую Суцін не прызнаў.

***1926*** – жыў у Збароўскага ў Ле-Блан.

***1927*** – першая персанальная выстаўка ў галерэі «Бінг» (Bing) у Парыжы. Гасціў у мастацтвазнаўцы Элі Фора ў Бардо. Няўдалае сватаўство да яго дачкі.

***1928*** – працаваў у Ле-Блан. Пачатак сяброўскіх адносін з сям'ёй калекцыянераў Кастэнаў. Публікацыя манаграфіі Вальдэмара Жоржа пра Суціна (George W. Chaim Soutine. Paris, 1928). Выстаўка ў галерэі «Катр Шмэн» (Quatre Chemins).

***1929*** – пагаршэнне фінансавага становішча Суціна ў сувязі з сусветным фінансавым крызісам. Прагрэсіраванне хваробы. Лячэнне ў Ніцы. Здымаў майстэрню на бульвары Распай. Пісаў пейзажы ў Вансе. Выстаўка ў галерэі «Бернхейм» (Bernheim). Публікацыя манаграфіі Э. Фора пра Суціна (Faure E. Chaim Soutine. Paris, 1929).

***1930*** – работы Суціна экспанаваліся на «Вялікай выстаўцы рускага мастацтва» ў Белградзе.

***1931–1932*** – удзел у выстаўках рускіх мастакоў у парыжскіх галерэях «Ла Лікорн» (La Licorne, 1923), «Эпоха» (L'Époque, 1931), «Д'Аліньян» (D'Alignan, 1931), «Рэнесанс» (La Renaissance, 1932). Смерць Леапольда Збароўскага (1932). Апекунамі Суціна сталі муж і жонка Кастэны.

***1935*** – 20 палотнаў Суціна з поспехам экспанаваліся ў Арт-клубе (Art Club) у Чыкага (ЗША).

***1936*** – у Парыжы сустракаўся з земляком – мастаком Шрагай Царфіным, вёў перапіску з сям'ёй у СССР, пасылаў грошы. У галерэі «Валянтайн» (Valentine) у Нью-Ёрку адкрылася яго персанальная выстаўка.

***1937*** – жыў на віле Сера (Villa Seurat) у Парыжы. У кафэ «Дом» сустрэўся з дачкой нямецкага футроўшчыка Гердай Грот (Міхаэліс). 12 работ Суціна прадстаўлены на выстаўцы «Майстры незалежнага мастацтва 1895–1937» у Пеці-Пале (Petit Palais). Персанальныя выстаўкі ў галерэях «Саліван» (Sullivan) и «Валянтайн» (Valentine) у Нью-Ёрку і рэтраспектыўная – у галерэі «Лейсэстэр» (Leicester) у Лондане.

***1938*** – выстаўкі ў галерэях «Сторан» (Storan) у Лондане і «Валянтайн» (Valentine) у Нью-Ёрку.

***1939*** – выстаўка ў галерэі «Валянтайн» (Valentine) у Нью-Ёрку. На лета Суцін з Гердай пераехаў у вёску Сіўры-сюр-Серэн. У пачатку Другой сусветнай вайны спрабаваў запісацца ў армію добраахвотнікам, яму было адмоўлена па стане здароўя. Атрымаў запрашэнне ад старэйшай сястры эміграваць у ЗША, але не змог яго выкарыстаць. Суцін і Герда атрымалі статус бежанцаў, ім забаранілі пакідаць Сіўры. Здароўе Суціна рэзка пагоршылася, і ён атрымаў дазвол з'ехаць у Парыж, каб атрымаць медыцынскія кансультацыі.

***1940, кастрычнік*** – Суцін зарэгістраваўся як яўрэй у прэфектуры паліцыі Парыжа. Герду, падданую Германіі, накіравалі ў лагер для прымусовых перасяленцаў у Гурсе ў Пірэнеях. Выстаўка Суціна ў галерэі «Карстэз» (Carstairs) у Нью-Ёрку.

***1941*** – Суцін вярнуўся ў Парыж. Знаёмства з Мары-Бертай Аранш, былой жонкай мастака Макса Эрнста. Суцін і Мары-Берта вымушаны хавацца ў сяброў у Парыжы. Ад'езд у вёску паблізу ад Шынона.

***1942*** – пакуль Суцін і Мары-Берта жылі ў правінцыі, карцінамі Суціна займаўся маршан Луі Карэ (Louis Carré).

***1943*** – здароўе Суціна рэзка пагоршылася. З прабадзеннем язвы страўніка ён змешчаны ў шпіталь у Шыноне. Мары-Берта Аранш перавезла яго ў Парыж у клініку доктара Аліўе. 7 жніўня лепшы хірург доктар Гасэ апераваў мастака. 9 жніўня Суцін памёр у клініцы ад перытаніту. 11 жніўня – пахаваны на могілках Манпарнас.

Пасля смерці Суціна прайшлі выстаўкі ў галерэях «Філіпс» (Phillips, Вашынгтон) і «Бінг» (Bing, Нью-Ёрк).

У Парыжы, непадалёк ад вакзала Манпарнас, Суціну ўстаноўлены бронзавы помнік скульптара А. Блатаса. Імем Хаіма Суціна названы вуліцы ў гарадах Каньсюр-Мер, Ле Блан, Труа, Пецііт-Курон, Ліён і пляцы ў Серэ і Вуазэн-ле-Брэтанё.

Творы Суціна захоўваюцца ў шматлікіх прыватных зборах і музеях Францыі – Нацыянальным музеі сучаснага мастацтва (Musée National d'Art Moderne), Цэнтры Жоржа Пампіду (Centre Georges Pompidou), Музеі Арсэ (Musée d'Orsay), Музеі Аранжары (Musée de l'Orangerie) ў Парыжы; Музеі сучаснага мастацтва (Musée d'Art Moderne) ў Труа; Музеі Кальве (Musée Calvet) ў Авіньёне; Музеі вытанчаных мастацтваў у Бардо (Musée des Beaux-Arts de Bordeaux); у музейных зборах Швейцарыі – Мастацкім музеі ў Люцэрне (The Museum of Art Lucerne), Мастацкім музеі ў Базэлі (Kunstmuseum Basel), Музеі вытанчаных мастацтваў у Ла-Шо-дэ-Фон (Musée des Beaux-Arts de La Chaux-de-Fonds); Даніі – Дзяржаўным музеі мастацтваў (Statens Museum for Kunst) у Капенгагене; у Вялікабрытаніі – Галерэі Тэйт у Лондане (Tate Britain); у буйнейшых музеях ЗША – Музеі Метраполітан (Metropolitan Museum of Art) і Музеі сучаснага мастацтва (Museum of Modern Art) ў Нью-Ёрку, Мастацкім музеі Прынстанскага ўніверсітэта (Princeton University Art Museum), Мастацкім музеі ўніверсітэта ў Айове (University of Iowa Museum of Art), Галерэі сучаснага мастацтва Аквавела (Acquavella Gallery), Калумбійскім музеі мастацтваў у Каламбусе (Columbus Museum of Art), Мастацкай галерэі Олбрайт-Нокс у Буфала (Albright-Knox Art Gallery in Buffalo), Галерэі Філіпс (The Phillips Collection) у Вашынгтоне, Фондзе А. Барнса (The Barnes Foundation) ў Мерыёне, а таксама ў Музеі Ізраіля (Israel Museum) ў Іерусаліме і Галерэі Хіромі Ёшыі (Hiromi Yoshii Gallery) ў Токіа.

На радзіме мастака – у Смілавічах – у памяшканні Дома дзіцячай творчасці ў 2008 г. адкрылася экспазіцыя «Прастора Хаіма Суціна» (на сродкі, якія выдзеліла Парыжскае бюро ЮНЕСКА).

## Хадасевіч-Лежэ (народжаная Хадасевіч, у першым замужжы – Грабоўская, у другім – Лежэ, творчы псеўданім – Пятрова) Надзея Пятроўна (Надзя) Chodasiewicz-Léger (Chodossievich, Khodossièvich, Khodasevich, Grabowska, Petrova, Léger) Nadia[1] 1904/1902?–1982


ADAGP, Paris 2012

Н. Хадасевіч. Фота. 1930-я. Парыж
Н. Ходасевич. Фото. 1930-е. Париж

***1904 (1902?), лістапад*** – нарадзілася ў в. Асяцішчы Барысаўскага павета Мінскай губерні, Расійская імперыя (цяпер – в. Асяцішча Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці, Рэспубліка Беларусь), у сям'і сядзельца (гандляра гарэлкай у казённай лаўцы). Хутка сям'я Хадасевічаў пераехала ў в. Зембін пад Барысавам.

***1915*** – з пачаткам Першай сусветнай вайны разам з сям'ёй эвакуіравалася ў г. Бялёў Тульскай губерні. Наведвала студыю Цімафея Катуркіна – выпускніка Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу, вучня перадзвіжніка У. Макоўскага.

***1919–1921*** – заняткі ў ізастудыі Уладзіслава Стржамінскага (Władysław Strzemiński) і Кацярыны Кабро.

***1921–1924*** – вучоба ў Варшаўскай школе вытанчаных мастацтваў у акадэміка жывапісу, прафесара Мілаша Катарбінскага (Miłosz Kotarbiński).

***1923*** – выйшла замуж за студэнта-мастака Станіслава Грабоўскага (Stanisław Grabowski, 1901–1957).

***1924*** – пераезд разам з мужам у Парыж.

***1925–1932*** – наведвала Сучасную Акадэмію (Académie Moderne), заснаваную жывапісцам і скульптарам Фернанам Лежэ (Joseph Fernand Henri Léger, 1881–1955) і заснавальнікам пурызму ў жывапісе Амедэ Азанфанам (Amédée Ozenfant). Працавала ў якасці асістэнткі Фернана Лежэ.

***1926*** – сумесна са Станіславам Грабоўскім удзельнічала ў парыжскай выстаўцы ў Галерэі сучаснага мастацтва (Galerie d'Art Contemporain).

***1927*** – прымала ўдзел у калектыўнай выстаўцы вучняў Сучаснай Акадэміі Фернана Лежэ ў галерэі Аб'е (Galerie Aubier) у Парыжы. Пасля нараджэння дачкі Ванды скасавала шлюб са Станіславам Грабоўскім.

***1927–1928*** – сумесна з паэтам Янам Бржэнкоўскім (Brzękowski Jan) выдавала франка-польскі часопіс «Сучаснае мастацтва» («L'Art Contemporain – Sztuka Współczesna»), які фінансавала сама. У часопісе публікаваліся рэпрадукцыі карцін Лежэ, Азанфана, Пікаса, Ле Карбюз'е, вершы Т. Тцара, Р. Дэснаса (выйшлі два нумары).

***1929*** – удзел у Першым салоне незалежнага французскага мастацтва і сучаснага польскага мастацтва ў галерэі «Банапарт» (Bonaparte) у Парыжы.

***1930*** – сумесна з Уладзіславам Стржэміньскім займалася падборам і набыццём твораў мастацтва для міжнароднай калекцыі сучаснага мастацтва ў Лодзі. Прымала ўдзел у выстаўцы групы «Круг і квадрат» (Cercle et Carré) у «Галерэі 23» (Galerie 23) у Парыжы.

***1940–1944*** – была членам Таварыства дапамогі фронту, працавала ў падполлі ў акупіраваным Парыжы.

***1944*** – стала членам Саюза рускіх патрыётаў, узначаліла мастацкі аддзел, займалася арганізацыяй мастацкіх выставак і сама ўдзельнічала ў іх.

***1952*** – выйшла замуж за Фернана Лежэ, пасялілася ў Жыф-сюр-Івет (Gif-sur-Yvette) пад Парыжам, дзе стварыла артыстычны салон для мастакоў і крытыкаў мастацтва. Экспанавала свае работы ў галерэі «Бернхейм-мал.» (Bernheim-Jeune) у Парыжы.

***1955*** – пасля смерці Фернана Лежэ занялася дзейнасцю па прапагандзе яго мастацтва і захаванні творчай спадчыны.

***1957*** – пры садзейнічанні сябра сям'і Жоржа Бак'е (Georges Bauquier) закладзены музей Фернана Лежэ ў Б'ё (Biot) у дэпартаменце Прыморскія Альпы (Alpes Maritimes).

***1959–1973*** – некалькі разоў наведвала Беларусь, перадала ў дарунак школе ў Зембіне ўласныя мазаічныя работы, а Дзяржаўнаму мастацкаму музею БССР – больш за 300 факсімільных рэпрадукцый твораў вядомых еўрапейскіх майстроў, калекцыю злепкаў (сумесна з Інстытутам Марыса Тарэза пры ЦК Кампартыі Францыі), кераміку Пабла Пікаса, графічныя творы Фернана Лежэ і ўласныя работы.

***1960*** – адкрыццё Музея Фернана Лежэ ў Б'ё. У калекцыю музея ўвайшлі 385 твораў мастацтва Фернана і Надзі Лежэ (карцін, малюнкаў, керамікі, скульптур, габеленаў і інш.).

---

[1] *У гэтым выданні – Хадасевіч-Лежэ.*

**_1963_** – арганізавала выстаўку твораў Фернана Лежэ ў Маскве ў Дзяржаўным музеі выяўленчых мастацтваў імя А. С. Пушкіна.

**_1967_** – перадала музей у Б'ё і яго калекцыю ў дарунак Францыі. Узнагароджана ордэнам Ганаровага легіёна.

**_1969, 4 лютага_** – музей Фернана Лежэ ў Б'ё стаў Нацыянальным музеем Францыі па рашэнні Дзяржаўнага міністра па справах культуры Андрэ Мальро (André Malraux).

**_1971_** – выданне кнігі: Nadia Léger. Évolution Première. 1920–1926. Paris, 1971.

**_1972_** – выданне кнігі пра яе творчасць: Czwiklitzer C. Suprématisme de Nadia Khodossievitch-Léger. Paris, 1972. Узнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга ў СССР.

**_1982, 7 лістапада_** – памерла ў Парыжы. Пахавана на могілках у горадзе Кальяне (Callian) дэпартамента Вар.

Калекцыя рэпрадукцый, падораных Надзяй Хадасевіч-Лежэ, неаднаразова дэманстравалася ва ўсіх абласных і раённых гарадах БССР на перасоўных выстаўках у 1970–1990 гг.

Творы знаходзяцца ў музеі Фернана Лежэ ў Б'ё (Musee National Fernand-Leger, Biot), Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўным музеі выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна ў Маскве, Зембіне, Смаленску, Зорным гарадку ў Каралёве.

## Цадкін Восіп (Ёсель-Шмуйла)
## Zadkine Ossip
## 1888–1967




**В. Цадкін. Фота. 1920-я. Парыж**
**О. Цадкин. Фото. 1920-е. Париж**

**_1888, 14 ліпеня_** – нарадзіўся ў г. Віцебску ў сям'і ахрышчанага яўрэя Арона Цадкіна, прафесара класічных моў у Смаленскай семінарыі (паводле звестак мастака), і Сафіі Лестэр, з сям'і шатландскіх караблебудаўнікоў.

**_1900–1904_** – навучаўся цяслярна-такарнаму майстэрству ў рамесным класе Віцебскага гарадскога чатырохкласнага вучылішча.

**_1905_** – адпраўлены да стрыечнага брата маці Джона Лестэра ў Шатландыю для ўдасканалення ў рамястве цесляра. Вучыўся ў пансіёне ў Сандэрлэндзе, браў урокі скульптуры ў мясцовай мастацкай школе.

**_1905–1909_** – без дазволу бацькоў з'ехаў у Лондан. Навучанне ў Політэхнічнай школе. Працаваў у цяслярнай майстэрні. На летнія вакацыі (1907–1908) прыязджаў да сваякоў у Віцебск і Смаленск, куды пераехалі бацькі (1906). У Віцебску пазнаёміўся з Ю. Пэнам, М. Шагалам, Эль Лісіцкім.

**_1909, кастрычнік_** – прыехаў у Парыж, паступіў у Акадэмію вытанчаных мастацтваў, у майстэрню Ж.-А. Энжальбера (Jean Antoine Injalbert), аднак праз год пакінуў школу.

**_1910_** – асталяваўся на Манпарнасе ў «Вуллі». Пачатак кубістычнага перыяду яго творчасці.

**_1911–1915_** – выстаўка ў Восеньскім салоне і Салоне незалежных. Знаёмства з Апалінэрам, Бранкузі, Пікаса, Бурдэлем, Мацісам, Дэланэ, Мадыльяні. Здымаў пакой на вуліцы Важырар. Вывучаў рымскую скульптуру. Выстаўкі ў Берліне, Амстэрдаме, Лондане (1914–1915).

**_1915–1917_** – паступіў добраахвотнікам у войска. Служыў санітарам, з-за атручвання газамі быў шпіталізаваны і дэмабілізаваны.

**_1918_** – выстаўка ў галерэі «Кентаўр» (Galerie le Centaure) у Брусэлі. Першыя набыцці яго работ бельгійскімі аматарамі сучаснага мастацтва.

**_1920, жнівень_** – ажаніўся з мастачкай Валянцінай Пракс (1899–1981). Вялікая выстаўка ў майстэрні на вуліцы Русэль. Зрабіў 20 афортаў па ўспамінах пра вайну.

**_1921_** – першая манаграфія пра Цадкіна ўплывовага мастацкага крытыка Марыса Рэйналя (Raynal M. Ossip Zadkine. Rome: Éditions «Valori Plastici»). Выстаўкі ў Токіа, Грэноблі.

**_1926–1927_** – рэтраспектыўная выстаўка ў Парыжы. Перадаў у дарунак Музею новага заходняга мастацтва ў Маскве некалькі скульптур.

**_1928_** – пасяліўся на вуліцы д'Аса ў Парыжы, дзе пражыў з жонкай усё жыццё. Стварыў скульптуры «Ніабея», «Дыскабол», «Дземетра» і іншыя.

**_1933_** – выніковая выстаўка ў Музеі вытанчаных мастацтваў у Брусэлі, прысвечаная 25-годдзю творчай дзейнасці.

**_1934_** – пасяліўся ў вёсцы Арк (дэпартамент Ло), дзе купіў вялікі дом.

**_1934–1939_** – выстаўка ў Парыжы, Берліне і Лондане, Філадэльфіі, Чыкага, Нью-Ёрку, Токіа, Венецыі, у гара-

дах Бельгіі і Нідэрландаў. Стварыў праекты чатырох манументаў інтэлектуалам Францыі: Рэмбо, Латрэамону, Апалінэру, Жары.

***1937*** – першая паездка ў ЗША, выстаўка ў Нью-Ёрку.

***1941–1945*** – па патрабаванні сяброў пакінуў Францыю, жыў у Паўночнай Караліне (ЗША). З 1944 выкладаў у Лізе студэнтаў-мастакоў. Стварыў скульптуры «Зняволены» і «Арлекін, які ваюе».

***1945*** – вяртанне ў Парыж.

***1948–1950*** – выстаўка ў гарадскім музеі (Stedelijk Museum) у Амстэрдаме. Рэтраспектыўны паказ скульптур у Нацыянальным музеі сучаснага мастацтва (Парыж). Удастоены Гран-пры Венецыянскай біенале (1950).

***1945–1958*** – выкладаў у Акадэміі Гранд-Шам'ер (Парыж). Рэтраспектыўныя выстаўкі ў музеях Амстэрдама, Парыжа, Ратэрдама.

***1953, 15 мая*** – урачыстае адкрыццё манумента «Разбураны горад» у Ратэрдаме.

***1960*** – удастоены Нацыянальнай прэміі Францыі ў вобласці мастацтва. Выстаўкі ў шасці гарадах Японіі. Нараджэнне пазашлюбнага сына Нікаласа Хасле ад датчанкі Ганнэліз Хасле, Цадкін дамагаецца, каб Нікаласа афіцыйна прызналі яго сынам, што і адбылося ў пачатку 1980-х[1].

***1961–1965*** – помнік Ван Гогу ў мястэчку Авер-сюр-Уаз (Францыя), скульптурная кампазіцыя «Браты Ван Гог» у Зюндэрце (Нідэрланды).

***1966*** – рэтраспектыўная выстаўка ў Мастацкім музеі (Цюрых). Выхад кніг: Ossip Zadkine: plastiken, gouachen, zeichnungen, tapisserien. Köln: Lempertz Contempora, Kunsthaus Lempertz і Spiteris T. Ossip Zadkine. Milano: Fratelli Fabbri, 1966. Узнагароджаны ордэнам Ганаровага легіёна.

***1967, 25 лістапада*** – памёр у шпіталі ў прыгарадзе Парыжа Нёі-сюр-Сэн. Пахаваны на могілках Манпарнас у Парыжы.

***1982*** – у доме Цадкіна на вуліцы д'Аса быў адкрыты бясплатны музей, яго асновай стаў дарунак удавы скульптара гораду Парыжу – больш за 100 скульптур і іншых твораў мастака. Імем Восіпа Цадкіна названа вуліца ў Парыжы.

Работы Цадкіна знаходзяцца ў найбуйнейшых музеях ЗША і краін Еўропы: Мастацкі музей у Даласе (Dallas Museum of Art), Тэхас, ЗША; Музей Хіршхорн (Hirshhorn Museum and Sculpture Garden), Вашынгтон, ЗША; Музей выяўленчых мастацтваў (Museum of Fine Arts), Бостан, ЗША; Музей сучаснага мастацтва (Museum of Modern Art), Нью-Ёрк, ЗША; Мастацкая галерэя Вялікай Вікторыі (Art Gallery of Greater Victoria), Брытанская Калумбія, Канада; Музей Мэры і Лі Блок у Паўночна-Заходнім універсітэце (The Mary and Leigh Block Museum of Art at Northwestern University), Ілінойс, ЗША; Музей Брукліна (Brooklyn Museum), Нью-Ёрк, ЗША; Галерэя Курто (Courtauld Gallery), Лондан, Вялікабрытанія; Мастацкі музей Гарвардскага ўніверсітэта (Harvard University Art Museums), Масачусэтс, ЗША; Музей Хелены Кролер-Мюлер (Kröller-Müller Museum), Отарло, Нідэрланды; Музей Грэнобля (Musée de Grenoble), Францыя; Музей Ларэна (Musée de Lorraine), Нансі, Францыя; Музей Яна ван дэр Тогта (Museum Jan van der Togt), Амстэльвен, Нідэрланды; Мастацкі музей каледжа Памоны (Pomona College Museum of Art), Каліфорнія, ЗША; Каралеўскі музей выяўленчых мастацтваў (Royal Museum of Fine Arts), Брусель, Бельгія; Галерэя Тэйт (Tate Britain), Лондан, Вялікабрытанія; Мастацкая галерэя Вініпег (Winnipeg Art Gallery), Манітоба, Канада.

[1] *Максімава Ю. Барацьба за спадчыну Восіпа Цадкіна. http://artinvestment.ru/news/artnews/20110331_ossip_zadkine.html*

## Царфін (Зарфін) Шрага (Файбіш-Шрага, Сэм) Zarfin (Tsarfin) Schraga (Faibich-Schraga, Sam) 1899/1900–1975




**Ш. Царфін. Фота. 1960-я. Парыж**
**Ш. Царфин. Фото. 1960-е. Париж**

***1899/1900, 7 студзеня*** – нарадзіўся ў м. Смілавічы Ігуменскага павета Мінскай губерні, Расійская імперыя (цяпер – г. п. Смілавічы Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці, Рэспубліка Беларусь), у сям'і гандляра скурай Абрама Царфіна.

***1912*** – паступіў у Віленскую народную школу малявання, якой кіраваў акадэмік Іван Трутнеў. Захапленне сіяністскім рухам.

***1914*** – эміграваў у Палесціну. Жыў у сельскагаспадарчай камуне, выконваючы розныя работы па асушэнні балот і апрацоўцы зямлі.

***1916*** – вучыўся ў Іерусаліме ў мастацкай Акадэміі Бецалель (Academy Bezalel).

***1918*** – мабілізаваны ў брытанскую армію. Прымаў удзел у ваенных дзеяннях за вызваленне Палесціны ад прысутнасці Атаманскай імперыі. Закончыў школу афіцэраў.

***1920*** – дэмабілізацыя з арміі. Удзельнічаў у выстаўцы, арганізаванай мэрам Іерусаліма.

***1923*** – пераехаў у Берлін, дзе ўдзельнічаў у выстаўцы Берлінскага Сецэсіёна. Праца над ілюстрацыямі да кніжных выданняў, узмацненне ўплыву на яго творчасць мастака Макса Лібермана і нямецкіх экспрэсіяністаў.

***1924*** – пераезд у Парыж. Сустрэча з земляком Хаімам Суціным. Пасля наведвання музеяў знішчыў свае раннія творы.

***1925*** – пераключэнне на жывапіс на тканіне, выраб эскізаў для дамоў моды.

***1926*** – удзел у выстаўцы Салона незалежных у Парыжы. Зарабляў пляценнем чаравікаў і роспісам тканін.

***1929*** – ажаніўся з Сарай Сафі Бергер (Sarah Sophie Berger, 1904–1995), ураджэнкай Бесарабіі, выпускніцай Адэскага ўніверсітэта.

***1930*** – удзел у Салоне незалежных.

***1931*** – атрымаў французскае грамадзянства.

***1932*** – пераезд у прыгарад Парыжа Вірафле. Працаваў як мастак па тканінах, выконваў заказы для дома моды Вольгі Олбі (Бесарабскай).

***1933*** – нараджэнне дачкі Ліліян (Ліліян Дзюлак-Зарфін, Liliane Dulac-Zarfin) – у будучым вучонага-медыявіста. Удзел у выстаўцы Салона незалежных.

***1935*** – вяртанне ў Парыж.

***1936*** – аднавіў кантакты з Хаімам Суціным, які параіў яму засяродзіцца толькі на жывапісе.

***1937*** – удзел у Салоне незалежных.

***1939*** – мабілізацыя ў французскае войска ў сувязі з пачаткам Другой сусветнай вайны. Стварыў альбом малюнкаў, які купіў французскі ўрад. Пасля заключэння перамір'я паміж Францыяй і Германіяй вярнуўся да сваёй сям'і ў правінцыю. За час яго адсутнасці гаспадар парыжскай кватэры знішчыў усе рэчы, дакументы і карціны Царфіна: прапала каля 300 твораў – гуашаў, акварэляў, малюнкаў, сангін.

***1940*** – удзел у Салоне незалежных у Парыжы. Вярнуўся з жонкай і дачкой у Брыў-ла-Гаярд, дзе хаваўся ад нацыстаў.

***1941–1943*** – жыў у «свабоднай зоне» ў Ліёне, хаваючы сваё яўрэйскае паходжанне. Яго дачка знайшла прытулак у манастыры Узнясення Багародзіцы. Узмацненне жорсткасці праследавання нацыстамі яўрэяў вымусіла мастака хавацца ў наваколлях Грэнобля, у гарах, але і там ён працягваў заняткі жывапісам. Выстаўкі яго работ у грэнобльскай галерэі «Нотр-Дам» (Notre-Dame, 1941, лістапад), ліёнскай галерэі «Фальклор» (Folklore, 1942, ліпень).

***1944*** – вяртанне мастака з сям'ёй у Грэнобль. Заснаваў там тэатр аднаго акцёра.

***1945*** – вяртанне ў Іль-дэ-Франс.

***1947*** – пасяліўся ў Рані-су-Буа пад Парыжам. Жыў на заказы сваіх амерыканскіх сабратоў-мастакоў. Прыняў удзел у выстаўцы рускіх і французскіх мастакоў, арганізаванай Саюзам савецкіх патрыётаў.

***1950-я*** – пастаянна падарожнічаў па наваколлях Парыжа, ездзіў у Нармандыю, працаваў у Анфлёры (Honfleur), дзе маляваў саборы і лясы. Генрых Герц напісаў пра яго артыкул у часопісе «Еўропа» (1950, снежань), які выклікаў палеміку ў прэсе.

***1954*** – адно з палотнаў Царфіна («Пейзаж») набыў Нацыянальны музей сучаснага мастацтва (Парыж). Амерыканскія мільянеры Алена Рубінштэйн і Алекс дэ Ротшыльд набылі некалькі яго твораў.

***1955*** – удзельнічаў у групавых выстаўках. Атрымаў прэмію горада Мантрой (Montreuil) – 5 тысяч франкаў.

***1958*** – яўрэйскі музей у Нью-Ёрку набыў і выставіў дзве яго работы. Каля 30 работ Царфіна былі экспанаваны ў Доме інтэлектуалаў (Maison des intellectuels) у Парыжы.

***1960-я*** – паездкі ў Манпелье да дачкі і зяця, у Фіністэр. Пачатак шырокай вядомасці. Калекцыянеры набылі каля 90 яго карцін і гуашаў.

***1963*** – у Жэневе выйшла манаграфія пра Царфіна з прадмовай аўтарытэтнага французскага эстэтыка XX ст. Эц'ена Сур'ё (Zarfin. Préface d'Étienne Souriau, Genève, Pierre Cailler, 1962) і артыкуламі вядомых крытыкаў Жана Касу, Вальдэмара Жоржа. Царфін жыў замкнёна і пісаў вершы. У музеі Ашмалеян у Оксфардзе былі выстаўлены 7 палотнаў мастака і 12 гуашаў. Гэтыя работы былі згублены альбо прададзены пасля выстаўкі мабыць з-за банкруцтва яе арганізатараў. Царфін падаў у суд і атрымаў значную кампенсацыю.

***1966*** – выстаўка работ у палацы Лаверсін (Chateau de Laversine) недалёка ад Крэй. Была выдадзена літаграфія адной з яго карцін у карысць Асацыяцыі дзіцячых дамоў.

***1970*** – паездкі ў Савою.

***1971*** – Царфін як ганаровы ўдзельнік прадставіў 18 карцін на выстаўцы, арганізаванай муніцыпалітэтам Рані-су-Буа.

***1975, 25 верасня*** – памёр у Рані-су-Буа пад Парыжам, дзе і быў пахаваны.

У тым жа годзе ў адной з парыжскіх галерэй былі паказаны некалькі карцін Царфіна, а муніцыпалітэт горада Мантрой арганізаваў яго пасмяротную выстаўку.

***2012*** – сям'я мастака падаравала Нацыянальнаму мастацкаму музею Рэспублікі Беларусь два жывапісных творы Царфіна 1950-х гг.

Работы Царфіна знаходзяцца ў музеях Францыі (Нацыянальным музеі сучаснага мастацтва (Musée National d'Art Moderne, Парыж)), Ізраіля, ЗША (Яўрэйскім музеі (Jewish Museum) ў Нью-Ёрку), Канады, у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, у прыватных зборах калекцыянераў розных краін, у тым ліку Расіі і Беларусі.

## Шагал Марк (Маісей)
## Chagall Marc (Moses, Moishe)
## 1887–1985



**Марк Шагал. Партрэт работы Ю. Пэна. Сярэдзіна 1910-х**
**Марк Шагал. Портрет работы Ю. Пэна. Середина 1910-х**

***1887, 6 ліпеня (24 чэрвеня)*** – нарадзіўся ў г. Віцебску, Расійская імперыя (цяпер – абласны цэнтр г. Віцебск, Рэспубліка Беларусь), у сям'і мяшчан-гандляроў Хацкеля (Захара) і Фейгі-Іты Шагал.

***1900–1905*** – вучыўся ў сталярна-такарным класе Віцебскага чатырохкласнага гарадскога вучылішча з рамесным ухілам.

***1906*** – працаваў рэтушорам у фатографа. Некалькі месяцаў наведваў Школу жывапісу і малюнка выпускніка Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў Ю. М. Пэна, зімой з'ехаў у Санкт-Пецярбург.

***1907*** – нядоўга працаваў у Санкт-Пецярбургу рэтушорам (напэўна, у фатографа і жывапісца М. С. Іофэ), маляваў шыльды для крам. Спрабаваў паступіць у Цэнтральнае вучылішча тэхнічнага малявання барона А. Л. Штыгліца, але не вытрымаў экзамену. Паступіў адразу ў трэці клас Малявальнай школы Імператарскага Таварыства заахвочвання мастацтваў, быў прызначаны стыпендыятам, вучыўся ў класе Г. М. Баброўскага.

***1908*** – у чэрвені прызваны павесткай з Оршы на ваенную службу. Дзякуючы хадайніцтву М. К. Рэрыха, адваката Г. А. Гольберга атрымаў адтэрміноўку на два гады. У канцы года пакінуў Малявальную школу Імператарскага Таварыства заахвочвання мастацтваў, нядоўгі час займаўся ў прыватнай школе жывапісу і малявання С. М. Зэйдэнберга.

***1909*** – лета правёў у Віцебску і Ліёзна. Знаёмства з Бэлай Розенфэльд (1889–1944). Пасля вяртання ў Пецярбург паступіў у прыватную школу жывапісу К. Званцавай, дзе выкладалі Л. С. Бакст і М. В. Дабужынскі.

***1910*** – удзел у «Выстаўцы работ вучаніц і вучняў Л. С. Бакста і М. В. Дабужынскага (Школа Званцавай)», якая праходзіла ў рэдакцыі часопіса «Апалон». Улетку з'ехаў у Віцебск.

***1911*** – дэпутат Думы М. М. Вінавер купіў у Шагала дзве карціны і прызначыў яму стыпендыю ў 125 франкаў у месяц для працягу вучобы за мяжой. У красавіку Шагал удзельнічаў у другой выстаўцы «Саюза моладзі». У пачатку мая з'ехаў праз Берлін у Парыж. Наведванне акадэмій Ла Палет і Гранд Шам'ер.

***1912*** – пераезд у камуну мастакоў «Вулей». Удзел у Салоне незалежных і Восеньскім салоне.

***1913*** – вясной удзельнічаў у выстаўцы ў Салоне незалежных. У «Свабоднай акадэміі» М. Васільевай і ў рэдакцыі часопіса «Манжуа» («Montjoie») прайшлі невялікія экспазіцыі работ мастака. Вясной тры творы Шагала экспанаваліся ў Маскве на выстаўцы «Мішэнь». У верасні Шагал адправіў тры свае карціны на 1-шы нямецкі Восеньскі салон (Берлін).

***1914*** – удзел у выстаўцы ў Салоне незалежных. У сакавіку з'явіліся першыя водгукі пра Шагала ў рускай мастацкай крытыцы: у газеце «Кіеўская думка» быў апублікаваны артыкул А. В. Луначарскага «Марк Шагал», а ў маі ў часопісе «Апалон» – артыкул Я. А. Тугендхольда пра Салон незалежных.
У красавіку – маі ў Берліне ў галерэі Вальдэна «Дэр Штурм» (Der Sturm) прайшла сумесная выстаўка Марка Шагала і Атакара Кубіна; у чэрвені там жа – першая буйная персанальная выстаўка мастака.
З'ехаў з Берліна ў Віцебск. Распачатая Першая сусветная вайна пазбавіла Шагала магчымасці вярнуцца ў Парыж. Пачатак працы над творамі «Віцебскай серыі» (1914–1915).

***1915*** – экспанаванне 25 карцін «Віцебскай серыі» на выстаўцы «1915 год» у Маскве ў мастацкім салоне Міхайлавай. 25 ліпеня ажаніўся з Бэлай Розенфэльд. Увосень Шагал з жонкай пераехаў у Петраград, дзе пачаў працаваць у Цэнтральным ваенна-прамысловым камітэце. Смерць маці Марка Шагала.

***1916*** – уступіў у Яўрэйскае таварыства заахвочвання мастацтваў (ЯТЗМ). Персанальная выстаўка ў Мастацкім бюро Н. Я. Дабычынай. 45 работ «Віцебскай серыі» прадстаўлена на выстаўцы мастацкага таварыства «Бубновы валет». 18 мая нарадзілася дачка Іда (у другім шлюбе – Іда Мэер (Ida Meyer); 1916–1994).

***1917*** – афармленне скетча М. М. Яўрэінава «Вельмі вясёлая песня» для артыстычнага кабарэ «Прывал камедыянтаў» у Петраградзе. Абранне членам таварыства мастакоў «Саюз моладзі». Удзельнічаў у якасці члена журы і экспанента ў Другой выстаўцы карцін і скульптуры мастакоў-яўрэяў, наладжанай ЯТЗМ у Маскве. Па заказе Петраградскай яўрэйскай абшчыны приступіў да працы над пано ў прафесійным тэхнічным вучылішчы для яўрэйскіх дзяцей (заказ застаўся нявыкананым). Удзел у Выстаўцы эцюдаў у Мастацкім бюро Н. Я. Дабычынай. У Вільні ў яўрэйскім выдавецтве Б. А. Клёцкіна выйшлі дзве кнігі на мове ідыш з ілюстрацыямі Шагала – «Казка пра пеўня, козачку і мышку» Дэра Ністэра і «Фокуснік» І.-Л. Пераца. Пасля расфарміравання Цэнтральнага ваенна-прамысловага камітэта Шагал з жонкай і дачкой паехаў у Віцебск.

***1918*** – працяг супрацоўніцтва з ЯТЗМ і Мастацкім бюро Н. Я. Дабычынай. 12 верасня Калегіяй па справах мастацтваў пры Наркамасветы Шагал прызначаны ўпаўнаважаным па справах мастацтваў Віцебскай губерні. Кіраўніцтва мастацкім афармленнем Віцебска да першай гадавіны рэвалюцыі. Займаўся стварэннем Народнага мастацкага вучылішча ў Віцебску.

***1919*** – узначаліў пададдзел выяўленчых мастацтваў у структуры губаддзела народнай адукацыі. 28 студзеня адкрылася Народнае мастацкае вучылішча. З красавіка Шагал загадваў вучылішчам, кіраваў «Свабоднай майстэрняй жывапісу». Удзельнічаў у 1-й дзяржаўнай свабоднай выстаўцы твораў мастацтва, дванаццаць работ мастака набыла дзяржава. Па заказе петраградскага эксперыментальнага тэатра «Эрмітаж» зрабіў эскізы дэкарацый і касцюмаў да твораў М. В. Гогаля «Жаніцьба» і «Ігракі».

***1920*** – дабіўся ад Наркамасветы бязвыплатнай перадачы карцін рускіх мастакоў для Віцебскага музея сучаснага мастацтва, узначаліў камісію па набыцці карцін мясцовых мастакоў. Удзел у выставе карцін рускіх мастакоў у Пскове. Пасля канфлікту з запрошаным выкладчыкам Народнага мастацкага вучылішча Казімірам Малевічам з'ехаў у Маскву. Працаваў над афармленнем спектакляў для Дзяржаўнага яўрэйскага камернага тэатра, стварыў цыкл пано для глядзельнай залы.

***1921*** – у Дзяржаўным яўрэйскім камерным тэатры адбылася XXII выстаўка Цэнтрасекцыі аддзела выяўленчых мастацтваў Наркамасветы «Росписы Марка Шагала». Супрацоўнічаў з маскоўскімі тэатрамі. Выкладаў маляванне ў яўрэйскай працоўнай школе-калоніі «III Інтэрнацыянал» у Малахаўцы пад Масквой. Смерць бацькі.

***1922–1923*** – пераезд з Малахаўкі ў Маскву. Завяршэнне працы над кнігай «Маё жыццё» (пачатак працы адносіцца прыблізна да 1915–1916). У пачатку лета пакінуў СССР. Па запрашэнні пасла Літоўскай рэспублікі ў СССР Юргіса Балтрушайціса арганізаваў персанальную выстаўку ў Каўнасе. Удзел у Першай рускай мастацкай выстаўцы, арганізаванай Камісіяй аддзела выяўленчых мастацтваў Наркамасветы ў Берліне. З лета 1922 па восень 1923 жыў у Берліне. Выканаў серыю афортаў і гравюр сухой іголкай для ілюстравання кнігі «Маё жыццё».

***1923–1925*** – пераехаў з Берліна ў Парыж. Стварэнне 107 гравюр да паэмы М. В. Гогаля «Мёртвыя душы». Персанальныя выстаўкі мастака прайшлі ў Брусэлі, Кёльне, Цюрыху, Дрэздэне, Парыжы.

***1926–1927*** – па заказе маршана Амбруаза Валара (Ambroise Vollard) напісаў каля 30 гуашай, якія паслужылі пазней асновай для ілюстрацый да «Баек» Лафантэна. Стаў членам-заснавальнікам Таварыства мастакоў-гравёраў. Шмат працаваў у кніжнай ілюстрацыі. Стварэнне цыкла з 19 гуашай пад назвай «Цырк Валара» (1927). Перадаў у дар Траццякоўскай галерэі 96 гравюр да «Мёртвых душ» М. В. Гогаля. Выстаўкі ў галерэях «Катр Шмэн» (Quatre Chemins, 1925) і «К. Гранофф» (K. Granoff, 1926) у Парыжы, «Рэйнхард» (Reinhardt, 1926) у Нью-Ёрку.

***1928–1929*** – працяг працы над тэмай цырка і над афортамі да «Баек» Лафантэна. Удзел у выстаўцы сучаснага французскага мастацтва ў Маскве. Выстаўкі Шагала ў Парыжы і Брусэлі.

***1930*** – выстаўка «Лафантэн Шагала» экспанавалася ў Парыжы, Брусэлі, Берліне. Атрымаў ад А. Валара заказ на выкананне ілюстрацый да Бібліі.

***1931*** – паездка ў Палесціну (Хайфа, Тэль-Авіў, Іерусалім). Выданне кнігі «Маё жыццё» ў перакладзе на французскую мову (Ma Vie / Préface d'Anré Salmon. Paris: Stock, 1931). Выстаўка «Дваццаць апошніх карцін і невядомыя раннія малюнкі Марка Шагала» ў Парыжы.

***1932*** – па заказе Браніславы Ніжынскай стварыў эскізы дэкарацый і касцюмаў для балета «Бетховенскія варыяцыі». Работы Шагала экспанаваліся ў Амстэрдаме і Будапешце.

